# НЁМАН

ЛІТАРАТУРНА - НАВУКОВЫ МЕСЯЧНІК.

**1932. СЬНЕЖАНЬ 1932.**

| | | |
|---|---|---|
| **Кніжка V** | **Адрэс Рэдакцыі:**<br>Вільня, Партовая вул<br>№ 28, 10. | Падпіска на год 6 зал<br>На паўгода . . 3 „<br>На 3 месяцы 1 зал 75 гр.<br>Адна кніжка . . 70 „ |




НАТАЛЬЛЯ АРСЕНЬНЕВА.

## Увосені.

Я не магу пісаць, бо хмарамі густымі
Спавіта неба сінь, бо сонца ня відаць,
Бо кроплямі дажджу зьвінячымі, малымі
Бясконца, цэлы дзень заліта шыбаў гладзь.

І сумна, сумна так... і сумна нявымоўна,
І хочацца ісьці, знайсьці нязнаны шлях
Туды, гдзе ўжо вясна, гдзе пышна і чароўна
Красуе белы сад і сонечна ў палях!

Гдзе ўюцца матылі, яскравыя, як краскі,
Гдзе падняліся ў выш зялёныя жыта,
Гдзе шчодра, самахоць сплываюць сонца ласкі.
Гдзе цешыцца вясной ёсьць чар і любата!

1927 г.

## Восень у гаю.

Ціха восень да ймшы пахавальнай
Жаўтатканы дыван расьцілае
На дне ціхай, вільготнай лагчыны.
Ціха восень да ймшы пахавальнай
Паліць жоўтыя сьвечкі у гаю —
Усе бярозкі малыя, асіны...
Сіняй хваляй сплываюць туманы
І прасьветным пахучым кадзілам
Спавіваюць пажоўклыя дрэвы.
Смутнай песьняй, распачнай а знанай,
Песьняй ўсімі забытых магілаў
Гай заводзіць, маркотны, зжаўцелы.
І ў тон яму вецер высока
Штось шапоча ў бязьлістых каронах,
Мо' літаньню да яснага сонца...
Мо' малітву да сіняў глыбокіх,
Да вясьняных жывых пераразвонаў
Ў недасяжнай нябеснай старонцы.

1927 г. кастрычнік.

М. МАШАРА. *З цыклю вершаў*

## „Асеньнія напевы".

Аўсяным золатам узрушанае сэрца.
Стаю ізноў у моры сьпелага аўса.
І песьня йзноў з грудзей у даль нясецца,
Пяю ізноў табе, прыгожая зямля!

За гэта золата разьлітае багата,
За гэты хмельны шум аўсяных ніў,
За радасьць ціхаю працуючага брата
Табе, каханая, мой песенны прыліў.

Я думаць не хачу... прыгожым сэрца поўна
Хоць чую сьвіст за мной,—сьмяротны сьвіст касы.
З дзіцячай верай так малюсь камусь пакорна
Стрымай яе!.. хай пашумяць яшчэ аўсы...

* * *

Сёньня дзень такі прыгожы,
Якіх надта, надта мала.
Восень ціха на бярозах
Жоўтым твар свой хварбавала.

У небе штосьці, сонца коскі,
Пэўна ткалі з срыбнай белі,
Бо на нівы, на палоскі
Ніткі срыбныя ляцелі.

Павучынай звалі людзі
Гэты белы шоўк на полі
І казалі,—пэўна будзе
У гэным годзе хлеба болі.

* * *

Я—у лесе... Восень ймгліцца
Па лісьцю аўсянай грывай.
Лес у дрэме.., лесу сьніцца,
Сон прыгожы і тужлівы.

Усюды ціш і пазалота
Абнімаюць лес кудравы.
І чаму мне так маркотна,
Лес і ў дрэме вялічавы?

Анямелых пералескаў
Увесь сум душой абняўшы,
Штось шукаю... Мо' пралескаў?..
Пад лісьцём, на ймху завяўшых.

* * *

Сыпецца, сыпецца лісьце
Жоўтае лісьце бяроз.
Еду... дарога імгліцца,
Слухаю песьню калёс.

Межы... вузкія загоны,
Радасьць і сум мужыка,
Зжатыя... пуста і гола,
У сэрца лажыцца туга.

Далі абраз сустракаю:
Пасьба і стада кароў.
Хлопец прысеўшы чытае
Сьпеў тэлеграфных стаўпоў.

Мо‘ пераскажа калісьці
Гэты чароўны напеў.
Жоўта чырвонае лісьце
Сыпецца, сыпецца з дрэў.

* * *

Далей, далей бяжыць мой конь
Наўстрэч стаяць рады бяроз,
А восень кружыць наўздагон
Лісьцё пажоўклае, на плёс.

Бярозы б‘юць паклоны мне.
Дарога лічыць стук падкоў,
А тэлеграфны дрот пяе
Сярод сумуючых палёў.

Аб чым пяе?.. і што нясе
У тугой напоеную нем?
Мо‘ аб тым, што новы госьць ідзе
У край вясковых дрэм?..

* * *

Вецер лісткі трасе.
Завіхрыць... замяцеліць...
Асыпаюцца клёны...
Пасьцельку восень сьцеліць.
Адзін мох на страсе,
Быццам вясной—зялёны.

Вось так і ў жыцьцю парой
Вірыцца, як завея
Пакрые ймгла дарогу
І ня відаць надзеі,
А ты спакойным будзь душой
І вер у перамогу.

* * *

Даўно, даўно я не пяяў
І голас стаў нязвонкі і слабы.
Хоць песьні я не раскахаў,
І сэрцам я так сама малады.

Ды коўдрай белаю туман
Пакрыў ваколіцу і сад
І восень нудная вось там
Глядзіць у вочы шэрых хат.

І дзень і ноч імгліцца дождж,
І дзень і ноч нуда і сум,
І дзень і ноч не перамоч, —
Не перамоч маркотных дум.

* * *

Каля хаты верба і шуміць і плачыць.
Верасьнёвы вецер штось пяе тлумачыць.

А ў хаце моладзь песьні і гармонік,
То зальлецца гонка, то замрэ дуронік.

Быццам сіл ня мае, то занадта сілы,
Быццам вось канае, то ізноў шчасьлівы.

Ах і я калісьці, быў такі вясёлы,
Сьмяяўся і плакаў, як гармонь вясковы,

А цяпер чамусьці рукі мае зьвісьлі,
Верасьнёвы вецер абрывае лісьце...

## З цыклю „Праз жыцьцё“.

I.

Я новаму раньню,
І новаму дню
Гымны складаю
І песьні паю.

Бліскі сьвітаньня
І чырвань зары
Дух мой хапай-жа
І сей на зямлі.

Туды над загоны
Засьмяглай ральлі,
Пакуль ты натхнёны,
Пакуль ты жывы.

Да стрэх саламяных
Працоўных братоў,
Пакуль—расьпяяны
Служыць ім гатоў.

Туды да ваколіц
Пяскоў і балот,
Дзе цемра няволіць
Мільённы народ.

Паўстаў ты з нічога
І будзіш нічым,
Каротка дарога,
Каротка зусім,
Дык будзь-жа, нябога,
З жывымі—жывым!

О дух мой! у буры
Размаху вучысь,
Пакуль ты ня хмуры,
Ня блудзіш і чыст.

II.

Я не хачу стаяць на ўзбоччу,
Над доляй плакаць не хачу.
Хай буры нам віхры прарочуць,
Нікому лёс не даручу.

Я чую пульс мільённага народу,
І ў ім надзею палажу
І на ізломе пераходу
Я жыць з мільёнамі хачу.

Зіяць ў красе лядовай брылі
Я не магу... і не хачу,
У жывой красе... ў жыцьцю—з жывымі,
Як трэ' аддам на крыж душу.

Я не хачу стаяць на ўзбоччу,
Я жыць хачу—запраўды жыць,
Хоць раз-бы глянуць сонцу ў вочы
І смагу сэрца пагасіць.

## З цыклю „Безработныя“.

* * *

Худы загар на твары,
У сэрцы крыўды муць.
У вопратках ірваных
Ідуць яны, ідуць.

Іх лічаных—мільёны,
Бяз ліку—яшчэ больш.
Ідуць яны стамлёны,
Ідуць і дзень і ноч.

Вядзе іх дзед гарбаты,
Касьлявы і худы.
Хто сыты і багаты
Да вас ідуць яны.

Вітайце іх палацы,
Сусьветных гарадоў,
Усе яны бяз працы
Усяк на ўсё гатоў.

Магучы іх важаты
Бяз страху і сьцюдзён,
Страхотны і заўзяты
Завецца,—Голад ён.

За ім ідуць мільёны
Навокал сеюць жудзь.
Шагі скрыпяць разгонна,
Ідуць яны, ідуць.

— Нам працы, працы, працы
— І хлеба, хлеба нам! —
Людзкі натоўп зьвінячы
Вядзе „Цар-Голад"—сам.

* * *

Мы жывём у час міражны,
Час чаканьня і трывог,
І імкненьняў нявыразных,
Барацьбы і перамог.

Струны-нэрвы туга, туга
Панапружаў ў сэрцах хтось.
Дыхаць нечым... душна... глуха
Перад бурай гэдак вось.

* * *

О, людзі!.. Я не разумею,...
Зусім не разумею вас!
У вас ў душы па два сумленьні:
Адно ў жыцьцё, — другое на паказ.

І ня шукай, ня знайдзеш злога, —
— Не я, — другі тут вінават. —
У жыцьцю ядуць адзін другога —
На „этыкеце"—як для брата брат.

Чужыя радасьці і слёзы
Зусім бяз вартасьці для нас,
А можна жыць было-б прыгожа,
Запраўды жыць—не на паказ.

## Васількі.

Яшчэ змалку душу уракл,
Шчаравалі таёмнай красой,
Родных ніў васількі, васількі,
І з тых пор я — з дзіцячай душой

На людзей, на жыцьцё, на ўвесь сьвет
Не наўчыўся разумна глядзець.
Усьцяж шукаю красы гэтай сьлед,
Усьцяж жадаю ў грудзёх яе мець,

Яшчэ змалку душу уракл,
Навялі чары песень і сноў,
Васількі, васількі, васількі,
Дзеці любыя родных палёў.

М. ВАСІЛЁК.

## Адцьвілі, адцьвілі незабудкі...

Над цяністай вярбой срэбны месяц бялеў,
Зоры, зарачкі міргалі зьзяньнем—
Там стаялі яны... а ў лісьцю салавей
Пеў пра радасьць ім, пеў пра каханьне.

Як зарніцы прамень, як жыцьця ясны міг;
Усьмех сонейка майскі прыгожы —
Так цьвіла, эх вясна, у грудзёх маладых,
Рожай шчасьця, агністаю рожай.

Ручку белую браў, міла ў вочкі глядзеў,
Бы ў казцы сьвятой гэта сьніў усё:
У забыцьцю цалаваў—да дзявочых грудзей
У раскошы пяшчоты туліўся.

І шаптала яна: „мой адзіны дружок,
Маё сэрданька“... — ціха шаптала —
Абвівала рукой, з незабудак вянок
На грудзёх маладых заплятала.

Зацьвілі васількі, васілёчкі ў палёх;
Дзесь зязюля ў бары кукавала...
А сьляза, эх сьляза — на зялёны мурог
З ясных вочак хлапчыны спадала.

Пад цяністай вярбой ўжо стаяў ён адзін —
Усё прайшло, адцьвіло, анямела...
А дзяўчынка краса жартавала з другім,
Таму ласкі каханьня дарыла.

Так бывай-жа, бывай, зорка шчасьця майго —
Што-ж так мала мне сэрдайка грэла?
Дагарэў пышны дзень, ноч панурая ноч
У душу глянула цёмнай магілай...

— Ах пакінь ня кувай, ты зялюлька, ў гаю,
Ужо ня прагну уцехі я болей —
Пахаваў я вясну з ёй і радасьць сваю
У сэрцу пуста: ні шчасьця ні болю...

Адцьвілі незабудкі, вяночак завяў,
Шал ня песьціць душы ужо чуткай,
Што любіў, што кахаў – ўсё навек пахаваў.
Адцьвілі, адцьвілі незабудкі!

Я. ВІЛЬКОУШЧЫК.

## Думкі-хмаркі.

Сунуцца чорныя хмары з палудня,
Быццам як з прорвы паўзуць і паўзуць;
Сунуцца цяжка, памалу, марудна, —
Сумнымі думкамі сэрца грызуць...
Гдзе-ж ваш прыстанак, мае падарожныя,
Што вас змушае наш край пакідаць?
Нам пакідаеце думкі трывожныя
З важным пытаньнем: „Ці нам уцякаць?“
Сунуцца з вамі палоскі зямельныя
У баразны злучаны плугам стальным,
З вамі ўцякаюць шнурэ журавельныя,
Сум навяваючы крыкам сваім...
Гэтак яны - мае думачкі родныя,
Сунуцца хмаркамі ў іншы дзесь край,—
Шляхам спаткаюць прыветы халодныя,
Панад абшарам, дзе стогне ратай.
Сунцеся, думачкі, можа калісьці
Навет па жнівах я каплі пральлю,
Каб для пасеваў змачыць для карысьці
Дожджыкам цёплым сухую ральлю.

# Песьня селяніна.

Ой сваю настрою сошку
Да ладу, да сьледу,
Запрагу сваю „Каштанку"
І гараць паеду.

Разгару я шнюр-палоску
Конікам пагонным [1]),
Боразны злучу у ськібы,
А пасьля ў загоны.

А з загонаў чорных, роўных
Вузварата [2]) стануць;
Разгару я шнюр-палоску —
Люба будзе глянуць.

Прырыхтоўванае поле
Жытам я засею;
У сэрцы буду мецъ усходу
Зыркую надзею.

Свой пасеў пабараную,
Буду сам ў зьдзіўленьні,
Як абачу, што шнюр цэлы,
Руньню зазяленіць.

Зарасуе і нальлецца,
Да Пятра пасьпее,
Поўным коласам павісьне
Зыркая надзея.

Закалышацца палоска
Коласам дасьпелым,
Шчыра працу мне адплаціць
Снопам пажаўцелым.

На таку тагды я цьвёрдым
З цэпам сам прыгнуся,
Мужыком із собскім хлебам
У вёсцы назавуся.

---

[1]) шустрым, старанным.

[2]) шнюр у Слонімшчыне дзеляць на вузварата рознай даўжыні
Зацемкі аўтаравы.

М. МАШАРА.

# РЭФЛЕКСІЯ.

Сьвятковы дзень... вясна...

Маёвы вечар. З крывавым вянком на заходзе.

З вянком ірдзістага пурпуру, яшчэ незгаслае зары.

Час калі ў цёмнай сіні загараюцца зоры.

Час калі хочацца лятуцець...

Час калі, атуліўшыся ў хвалды змроку, хочацца снаваць узорныя кросны дум; аб не разгаданай таямніцы сусьвету... аб несьмяротнасьці жыцьця й працы.

Ціш і мляўкасьць...

Сьціх рогат каменнага страхацьця астрогу.

Сьціх рух і гул места...

Наўкол расплываецца томны й далікатны настрой.

Праз адчыненае акно, праз краты, углядаюся ў непарушна зьвешаныя косы бярозкі.

Сьвечкай у змроку сьвеціць бялёсы стан... Як сьпелы колас,... як галава пад цяжарам дум — пахінулася зялёная вяршынка над астраколам астрожнага муру.

Ціш і спакой...

Заснула аксамітна-бліскучае лісьцейка...

Не кратаюцца непарушна—бязвольныя галінкі.

Ціш і спакой... Душу агартае войстрае, невыразна-безназоўнае ймкненьне і ляніва-прасьветны спакой.

На‘т дзіва, што ў наш шалёна-нэрвовы век, век сусьцігу й імпэту—зрадзіўся такі млосна-спакойны вечар, з далікатна-романтычным настроем.

Пэўне ў такія вечары, вялікі романтык Міцкевіч, пісаў свае несьмяротныя ідыліі.

А мо‘, толькі я яго так адчуваю?..

Мо гэта романтызм у маёй душы?..

У душы сына вёскі, закінутага жыцьцём на брук места. У душы ўзгадаванай палявым прывольлем каласяных даляў і пявучым шумам лесу. У душы не зацьвярдзелай, як цэмэнт муроў, як брук места.

А мо‘ я астаўся ад свайго часу?.. Мо‘ спазьніўся радзіцца?..

Цямнее...

Зырчэй і сьмялей дрыжаць зоры...

Зьнекуль, здалёку прыляцеў і махнуў скрылом ветрык. Запахла зьмешаным пахам гары і далёкага поля.

Спускаецца сьвежая ноч... Маёвая ноч...

У далі блішчаць, чырвонымі вачмі, ліхтарні места.

Дзесь брэша сабака.

Дзесь, зусім блізка, на прадмесьцю грае гармонік.
Грае сумна, жаласна.
Ня грае, а плача... жаліцца.
То гулка, выбоіста гаркнуць протэстам басы—до-доо-до, ры рыы-ры... заравуць і змоўкнуць.
Трэ-рэ-рэ-рэ цягнець далі тэнар.
Узноў жаліцца й просіць ценкі дышкант.
Гукі—тыя-ж словы —
Ёсьць гукі—ціхія.
Ёсьць гукі моцныя.
Ёсьць – балючыя.
Ёсьць—салодкія...
Гукі, што просяць.
Гукі, што моляцца.
Гукі, што протэстуюць, крычаць і пагражаюць.
Гукі—безнадзеесьня.
Гукі—роскашы.
Гукі—шчасьця.
Гукі – жалю...
Душа разумее мову гукаў...
Дзеля таго так моцна б'ецца сэрца...
Дзеля таго так жадаецца знаць чаго плача, чаго жаліцца гармонік.
Дзеля таго хочацца разам крычэць ад болю.
Хочацца плакаць, раўці й жаліцца...
А мо гэта ня гукі?..
Мо' людзкая душа—змучаная?..
Мо' доля—пакрыўджаная?..
І каму, і каму яна жаліцца?
Чаго плачаць, калі наўкол рагочаць жыцьцё, каго хочаць разжаліць у век жалеза, крыві й змаганьня?..
Не, я ня люблю, цябе волат бяз страху. Цябе, што кіруеш шалёнай дурнотай нашага часу.
Цябе рыцар бяз сэрца, што падняў крывавы сьцяг змаганьня
Я не хачу сьлёзаў, я не хачу мукаў...
Мне хочацца любіць, тварыць і верыць.
Маё сэрца рве на часткі боль-жальба гэтых гукаў.
Романтык!.. рагоча мне хтось.
І як-бы ў вадказ, здалёку, зьнекуль з кавярні, там з прыгожых камяніцаў,--нясецца дзікі, шалёны зык джазбанду...
Дрыготка п'янога разгулу.
Дрыготка распусты й роскашы...
І хочыцца крыкнуць!.. крыкнуць крыкам протэсту.
Крыкнуць – каб зьнярухоміліся дрыжачыя зоры.
Каб пачуў сусьвет!..

Астрог—Лукішкі—1929 г.

Ст. СТАНКЕВІЧ.

# Аб беларускай літаратурнай сучаснасьці ў Заходняй Беларусі

Беларускае літаратурнае жыцьцё ў Заходняй Беларусі, як колькасьцю сваіх прадстаўнікоў, так і якасьцю іхняе продукцыі, далёка не адпавядае вялікаму поэтыцкаму разгону ў Усходняй Беларусі. Там літаратурны рух на працягу апошніх дзесяцёх год так насьпеў і разьвіўся, што беларуская сучасная літаратура нічым не астаецца ад літаратураў шмат якіх іншых народаў, маючых сваё гаспадарства, а навет і перавышшае некаторыя з іх. Праўда, хаця цяпер у Усходняй Беларусі маскоўскі шовінізм спыніў свабодны развой беларускае думкі, то аднак усё тое, што ўжо ўнесена там у скарбніцу беларускае літаратуры, ёсьць вялікім духовым здабыткам нашага народу.

Беларуская літаратурная сучаснасьць у Заходняй Беларусі, як рэзультат цяжкога палажэньня народу, не магла належна разьвіцца. Нячувана цяжкія абставіны, у якіх апынулася духовае жыцьцё народу, і вельмі ненормальны стан сярод самога грамадзянства, у большасьці пазбаўленага глыбшых ідэйных і культурных падставаў, не маглі, зразумела, прыяць стварэньню моцнага літаратурнага асяродку, з якога разыходзілася-б беларускае мастацкае слова. Сочачы за беларускай прэсай і выдавецтвам у Заходняй Беларусі, ня раз прыходзілася сустракацца з рознымі літаратурнымі спробамі, з што раз новымі прозьвішчамі, што часта прарочылі вялікія навет надзеі на будучыню, мелі ўсе дадзеныя, каб разьвіць свой прыродны талент і стацца запраўднымі поэтамі. Нажаль, большасьць маладых такіх поэтаў хутка чэзла з гарызонту. Беларускае грамадзянства, якое йшчэ й цяперака ў ладнай меры корміцца чужой культурай, сьвядома ці несьвядома, ігнаравала імі. Ня кажучы ўжо аб тым, што ніводзін з нашых пачынаючых поэтаў нідзе не сустракаў шчырае апекі й зразуменьня, так патрэбнага маладому таленту, але навет ня меў магчымасьці часамі выдаць свайго твору ці зборніка, бо ў першую чаргу зьвярталася ўвага на літаратуру палітычна-партыйнага характару. Такі ненормальны стан у нашым

культурна-грамадзкім жыцьцю, зразумела, прымусіў не аднаго спыніць сваю літаратурную працу і змарнаваць, мо‘ назаўсёды, свой талент.

Нягледзячы аднак на выразна няпрыяючыя ўмовы дзеля літаратурнага развою, беларускія літаратурныя гоні і ў Заходняй Беларусі ня можна лічыць запусьцелымі. Маладая беларуская літаратура, побач з іншымі галінамі духовага жыцьця, патроху разьвіваецца й здаваляе эстэтычныя патрэбы грамадзянства. Апроч беларускіх сучасных поэтаў сярэдняе й меншае меры, аб якіх будзе гутарка ніжэй, беларуская літаратурная сучаснасьць ня кажучы аб ранейшых поэтах, як К. Сваяк і іншыя, вяжацца з двума прозьвішчамі, шырака ведамымі — *Натальлі Арсеньневай* і *Міхася Машары*. Першая, што выступіла на літаратурную арэну ўжо дзесяць год назад і шырака выявіла ўсе задаткі свае мастацкае творчасьці,—другі, уступаючы толькі цяпер на шыршы поэтыцкі шлях і, многімі матывамі свае творчасьці, прарочучы сабе багатую будучыню,—у пераважнай меры прадстаўляюць беларускую літаратурную сучаснасьць у Заходняй Беларусі.

Творы Арсеньневае, што паўсталі ў 192¹—1925 г., надрукаваныя ў зборніку „Пад сінім небам“, выданым у 1927 годзе, пазьнейшыя творы былі друкаваныя ў часопісах «Родныя Гоні» і «Нёман».

Натальля Арсеньнева характарам свае творчасьці належыць да тае групы поэтаў, якія зрываюць з шэрай прозай штодзеннага жыцьця і ўвесь свой талент аддаюць на службу самой красе. Уся творчасьць Арсеньневае, незалежна ад свайго зьместу й характару, ёсьць няўстрыманым імкненьнем натхнёнае поэткі да найбольш беспасярэдняга выяўленьня гэтае красы ў сваіх высака мастацкіх хвормах і абразох. Дзеля таго што найбольш чыстыя й беспасярэднія праявы красы найлепш захаваліся ў натуральных і першабытных зьявах чалавечага жыцьця — у царстве незгаданае прыроды і народнай крыніцы нашага сьветаразуменьня,—Арсеньнева наўперад і зьвярнулася сюды па матар‘ял дзеля артыстычнага апрацаваньня. Беларуская прырода, заўсёды супакойная, харошая й сумная, выклікаючая ў душы пясьняркі натхнёныя парывы і глыбокія перажываньні, і народная творчасьць, авеена глыбокай фантастычнасьцю й чарамі, — ляглі ў васнову поэтыцкае творчасьці Арсеньневае. Абодва матывы блізу што вылучна служаць крыніцаю поэтыцкіх успрыйманьняў поэткі і кладуць арыгінальны, сваеасаблівы адпячатак на яе поэтыцкае аблічча.

Ціхая й чароўная прырода Беларусі грае найвялікшую

ролю ў творах Арсеньневае. Яна, апісуючы абразы роднае прыроды, ня можа супакойна пераліваць успрынятых ураджаньняў зьяваў у прыродзе, але даходзе да вялікіх захапленьняў і поэтыцкіх эмоцыяў. Даючы апісаньне летняе ночы ў вершы „*Ночка*“, поэтка, рысуючы ціхое й незаметнае (нецямкое) наступаньне гэтае ночы, якая-бы нейкая жывая істота, „Ішла над палямі-лагчынамі“ і стварала ў прыродзе многа цудоўных зьяваў, славамі, поўнымі глыбокага лірызму й захапленьня, зварочуецца да гэтае ночы:

**„Ночка, тваймі гэта чарамі,**
**Ночка, тваймі гэта дзівамі**
**Збуджаны зоры між хмарамі,**
**Сплецены мглы па над нівамі...“**
**(„Пад сінім небам“ 31).**

Таксама ў вершы „*Люблю я сонца залатое*“, поэтка, пад уплывам чароўна прыгожых зьяваў веснавога дня, зварочуецца да гэтае вясны — найбольш улюбленай ёю пары году, із славамі:

**„Вясна, вясна, дачка лятункаў,**
**Нясі сьвятло, нясі жыцьцё,**
**Нясі атруту пацалункаў,**
**Красуй вясна, кахай усё!**
**Любі усё, сагрэй каханьнем,**
**Жыцьцё зямлі, жыцьцё людзей,**
**Табе адкажа лес пяяньнем,**
**І людзі стануць весялей.**
**Цалуй лясы, ідзі гуляці**
**У палі, ў сады пагодным днём.**
**Кахай, кахай зямліцу-маці,**
**Палі яе, палі агнём!“** (62).

Арсеньнева нятолькі захоплюецца хараством беларускае прыроды; гэтая прырода жыве ў яе творах разам з поэткаю, жыве людзкім жыцьцём [1]). Такое ўвасобленьне прыроды надае яе абразом больш жыцьця й плястычнасьці. Прырода, як нейкая жывая істота, здольная разумець і адчуваць, творыць сугучную гармонію з духовым станам аўтаркі і выклікае ў яе душы цэлы сьцяг перажываньняў. Такі падыход да прыроды ёсьць уласьцівы вялікім лірыкам, у душы якіх кожная праява ў прыродзе знаходзе выразны водгалас, здольная выклікаць цэлы сьцяг разнастайных думак і настрояў. Гэтак беларуская вясна ў вер-

---

[1]) Прыраўнуй: М. Чэмер: „Верная дачка сонца і „Шчырай зямелькі“, „Родныя Гоні“, кн. 6. 1927, стар. 15—19.

шы *„Ішла вясна“*, сваёй красою і вялікаю жыватворчаю сілаю, выклікае ў душы поэткі многа высокіх парываў, якія з надзвычайнай меткасьцю выказуе ў наступных словах:

„І дрыжэлі знаёмыя струны ў душы,
Пазабытыя ў часе зімовай цішы,
І хацелася недзе ірвацца, ляцець,
І хацелася крыльлі птушыныя мець, —
І хацелася сонца абняць, цалаваць,
І пяяць, і пяяць, і пяяць, і пяяць, —
Бо йшчэ раз за маіх пералётных гадоў
Йшла вясна ў зяленіне палёў"!

(„Родн. Гоні“ кн. 4).

Летні вечар, містэрнай грой хварбаў дагараючае зары і густымі ценямі надыходзячага змроку ў вершы *„Вечар неба хварбуе“* так моцна прамаўляе да душы поэткі, што ёй „хочацца раптам устаць на калені. І стаяць так бяз руху маўкліва бяз конца"... (28). Шум лесу вячэрняю цішынёю *(„Лес шумеў“)* у душы поэткі выклікаў нейкі смутак—тугу“. (31) Жаўціня ападаючага лісьця ўвосень і манатоннае хлюпаньне ўночы дажджу (*„Жоўтыя клёны“*), навяваюць у яе душу глыбокі смутак і жаль за мінулай вясной. Хараство зімовае раніцы *(„Зімовы ранак“)* калі косы ўсходзячага сонца з бельлю сьнягоў твораць рознакалёрныя пераліві сьвятла, у сэрца поэткі ўлівае радасьць і бадзёры настрой. Харошы заход сонца прыцягуе да сябе душу поэткі з нязьведанай сілай і яна хоча

„...на мінуту забыцца аб горы
І глядзець, як у рожавым захаду моры
Косы бледнага сонца спляліся,
Я памерці хачу вось такою парою,
Хваляй сонца залітая ўся залатою,
Каб і слоў тых ня чуць: „прабудзісь“! (60).

А пралескі, першыя краскі вясны і яе сымболь, будзяць у яе сэрцы цэлы сьцяг мілых веснавых успамінаў, цэлы сьцяг харошых надзеяў. („Пралескі“).

Арсеньнева наўперад захоплюецца зьявамі прыроды ціхімі, таемнымі, романтычнымі. Дзеля гэтага найбольш натхненьняў знаходзіць яна ў чароўных абразох летняе ночы. Калі беларуская вясна, сваімі ласкамі і магутным прылівам новага жыцьця парывае за сабой уражлівую душу поэткі і напаўняе яе натхнёнымі ўзьлётамі і няўстрыманымі парывамі, то густы змрок ночы, бляды сьвет месяца, та-

емнае мірганьне зораў і сіня-сівы туман, — усе гэтыя начныя зьявы на фоне мертвае цішыні й супакою сплятаюць у ўвабражэньні поэткі чароўную казку, што вабіць яе сваёй фантастычнасьцю.

**„Есьць ночы белыя, ёсьць цёмныя, глухія,**
**Есьць ночы срэбныя і ночы ёсьць ціхія.**
**Іх—больш за ўсё люблю з маркотным бліскам зор,**
**Што на шаўку нябёс са срэбра ткуць вузор.**
**Люблю іх за спакой бязьмерны і чароўны,**
**Люблю за сьвежасьць, цень, за смутак нявымоўны“,**

гэтак кажа поэтка ў вершы «*Ночы і думкі*». Такая ноч выклікае ў душы поэткі „думкі сумныя і думкі... ціхія“, якія яна любіць найбольш за

**„.....цішу іх, глыбокую, нямую,**
**За тое, што тады і сэрца не гаруе,**
**За тое, што тады душа гарыць, расьце,**
**За тое, што жыву ня так, як людзі ўсе“.**

Сонная цішыня такое ночы творыць найбольш сугучную гармонію з духовым станам пясьняркі, бо

**„І ночы срэбныя, чуць сінія, сівыя,**
**І думкі сумныя, глыбокія, ціхія, —**
**У маёй душы плятуць, маўляў, адзін вузор,**
**Як той, што ў вышы ткуць сьняжынкі сьветлых зор** (75).

На пачатку мы ўспомнілі, што Арсеньнева ў сваім поэтыцкім адчуваньню стараецца парваць з сьветам зямнога прозаічнага жыцьця і ўцячы ў краіну вечнае й запраўднае красы. Вось-жа гэтай асаблівай краінай, як бачым, ёсьць Арсеньневай наўперад беларуская прырода, вечна жывая, авеена чарамі запраўднага хараства й шчасьця. Гэта выснутая з мрояў пясьняркі краіна завецца „*Пад сінім небам*“. Там усё начай, як на зямлі, там бязьмежнае шчасьце й воля, бо, як кажа пясьнярка ў програмовым вершы, зьмешчаным на чале ўсяго зборніка, там, —

**„Пад сінім небам няма распачы**
**Глухой, бязьмежнай, што гнець усё,**
**Пад сінім небам усё іначай,**
**Здаецца дзіўным, як сон, жыцьцё,**
**Зусім нязнаным, прадзіўна—ўзьлётным,**
**Жыцьцём—натхненьнем, без перашкод...**
**У нябесных сінях несьмяротных**
**Бясконцым сьвятам сплывае год“...** (5).

Ладне вершаў Арсеньневай пасьвячана філёзофічным разважаньням на тэму праяваў чалавечага жыцьця. Аднак

гэтыя разважаньні пераважна зьяўляюцца рэфлексам захапленьня аўтаркі харааством беларускае прыроды. Розныя зьявы ў прыродзе выклікаюць у яе душы адпаведныя разважаньні й рэфлексіі, дзеля чаго крыніцаю сюжэтаў і гэтых вершаў зьяўляецца беларуская прырода. Гэтак у вершы „*Пытаньне*“ ціхі абраз прыроды сваім нязьменным харaством родзіць у душы поэткі пытаньні на тэму мэты жыцьця, аб тым, што зрабіў чалавек за час свайго існаваньня на зямлі. У вершы „*Выйдзі ў ночы ў чыстае поле*“, пясьнярка процістаўляе хараству прыроды няшчасьце людзёў, якія, ня маючы волі, ня могуць быць шчасьлівымі



*Натальля Арсеньнева.*

ў гэтым царстве ціхое прыроды. Разважаючы аб тым, што прырода роўна служыць усім людзём, што „Нам сонейка роўна... Усё праменьнямі густа пакрыла“ („*Чаму*“), дахо-

дзе да перакананьня, што крыніцаю людзкога няшчасьця ёсьць „няпраўда, і зьдзекі, і зло“... (47), якія пануюць на сьвеце. Прырода у сваім бесканечным жыцьцю ня можа быць прычынаю людзкога гора, бо „нам сонейка роўна“, наадварот—у царстве прыроды мы знаходзім асалоду і забыцьцё ад цяжкіх праяваў жыцьця, бо

**„Калі людзі пакрыўдзяць цябе,**
**Калі хочацца плакаць, маліцца,**
**Ты ідзі у цямнеючы лес:**
**Там у цішы так лёгка забыцца“!** (47).

Верш гна тэмы нацыянальныя ў Арсеньневай бадай што няма. эта ёсьць зусім згодна з яе поэтыцкімі інтэнцыямі, для якой літаратурны твор ня можа служыць тэй ці іншай тэндэнцыі, а ёсьць сам сабою красой для красы. Дзеля гэтага й патрыётычныя матывы ў лірыцы Арсеньневай цесна зьвязаны з беларускаю прыродаю, яе каханьне Беларусі,—гэта каханьне роднае прыроды, роднага краю. Заход сонца на чужыне („*Край* ) выклікае ў думках поэткі абраз далёкае Беларусі, таго краю, «што яшчэ прыгажэйшым здаецца», дзе „Сіняе, сіняе неба бясконца, смутнавясёлае, яснае сонца, Далі бязьмежных палей“, дзе „Сонца... росы ўсьмешкаю сушыць, Вецер там кветкі ласкае, варушыць, Кветкі ў шырокіх лугох“ (9), дзе вясна, лета, зіма й восень, з зьменнымі абразамі ў прыродзе ствараюць неразгаданае царства хараства. Гарачую любоў роднага краю знаходзім так-жа ў вершы «*Лятуценьні*», дзе поэтка бачачы візію далёкага поўдня, краіну, дзе яна нарадзілася, дзе бушуе сіняе мора і вырастаюць пад неба высокія горы, сьцьвярджае ў сваім сэрцу, што ціхі й аднастайны абраз Беларусі ўсё-ж такі ёй мілейшы за багаты поўдзень і яна кажа:

**«Ці мне заменіць блакітнае мора,**
**Ці мне заменяць высокія горы,**
**Сонца чужое паўдня, —**
**Нашае бледнае сонца ціхое,**
**Мілае хвораму сэрцу вясною,**
**Мілае мне без канца?»** (17).

Васількі, што расьцьвілі на чужыне („*Васількі*“) выклікаюць у пясьняркі думкі аб родным далёкім краю, дзе таксама цьвітуць яны ў полі, толькі

**„Там, у гэтых палёх вы ня гэтак цьвілі,**
**Гэткі сум не сьвяціўся у вашых вачох —**
**Ў пахілёных, у зьвяўшых напоў лепястках,**
**Кветкі роднай, далёкай зямлі!“ (15).**

Апроч прыроды другой крыніцай твораў Арсеньневай ёсьць беларуская народная творчасьць.

Вялікі наш поэта Максім Багдановіч у сваім артыкуле „*Забыты шлях*“ [1]) зьвярнуў калісь асаблівую ўвагу на неабходную канечнасьць асноваваць беларускую літаратуру на народнай творчасьці. Прыгэтым поэта выказаў вялікі свой жаль аб тым, што нашая літаратура ў вальмі малой меры чэрпае з крыніцы народнае творчасьці, якая, на яго думку, павінна быць галоўнай асновай нашае літаратуры. Хаця на наш пагляд беларуская літаратура й вырасла на гэтым народным падкладзе, ня ў прыклад многім іншым літаратурам, то зычэньні Багдановічавы хіба былі-б зусім здаволены, калі-б ён жыў да нашых дзён і прычытаў творы Арсеньневай. Арсеньнева, як мала хто з іншых нашых поэтаў, патрапіла з надзвычайнай умеласьцю выкарыстаць беларускую народную творчасьць, патрапіла душой вялікае артысткі зразумець яе глыбокі зьмест і захаваную ў ёй красу. Да тыпу твораў Арсеньневай, аснова якіх узята з беларускае народнае творчасьці, належыць разьдзел з менаванага зборніка яе вершаў, „*Зачарованы кут*“. Разьдзел гэты зьмяшчае надзвычайна вялікае артыстычнае вартасьці натупныя кароценькія поэмы, пераплеценыя глыбокімі лірычнымі дыгрэсыямі: „*Зачарованы кут*“, „*Балотніца*“, „*Плач старога лясуна*“, „*Вясельле*“, „*Зорка*“, „*Шчасьце*“, „*Сны*“, „*Тры браты*“ і „*Лебядзінае возера*“. Агульны характар артыкулу не дае нам магчымасьці правесьці точную аналізу гэтых поэмаў і выказаць, што ўзяла пясьнярка з народнае творчасьці, а што ёсьць яе собскасьцю Гэта было-б бязумоўна вельмі ўдзячнай і карыснай працай, аднак тутака падчыркнём толькі агульныя асаблівасьці гэтага цыклю твораў. Вось-жа ўсе гэтыя вершаваныя апавяданьні, прыпамінаючыя многімі элемэнтамі зьместу й хвормы тыпова романтычныя баляды, аснаваны на матывах беларускай народнай фантастыкі, простыя й глыбокія, як беларуская народная песьня. Вялікая вартасьць гэтых твораў у тым, што пясьнярка патрапіла інтуіцыйна вычуць увесь глыбокі духовы зьмест беларускай народнай поэзіі і з надзьвычайным артызмам, прасьцінёй і натуральнасьцю пераліць яго ў радкі сваіх поэмаў. Уражаньне пры чытаньню гэтых твораў вялікае. Мы выразна адчуваем увесь глыбокі лірызм, шчырасьць і прасьціню, а пры гэтым вялікую поэтычнасьць беларускай народнай душы, якая так метка ўхоплена ў беларускай народнай творчасьці. Апрача гэтага, пры чытаньню менаваных твораў Арсеньневай, устае

[1]) „Творы М. Багдановіча“, т. II, Менск, 1928. Ғ. А. Н. стар. 40—43

беспасярэдна перад нашымі вачыма ўва ўсёй сваёй велічы багаты сьвет беларускай народнай фантастыкі, „Зачарованы кут“.

Творчасьць Арсеньневай зварочуе на сябе няменшую ўвагу чытача і з боку хвормы, якая ёсьць надзвычайна багатая й містэрная. Галоўнай адзнакай хвормы творчасьці Арсеньневай ёсьць надзвычайна містэрны падбор розных стылістычных хвігураў, якія ніколі ня бываюць штучнымі й перапоўненымі азначэньнямі, але адзначаюцца вялікай прасьцінёй і натуральнасьцю. Тут найвялікшую ролю граюць у Арсеньневай поэтыцкія прыраўнаньні, браныя бадай што вылучна з прыроды і народнай творчасьці. Прыраўнаньні Арсеньневай па сваёй тонкасьці азначаньня раўнаванага прадмету й яркасьці, а так-жа па сваёй разнастайнасьці пры кожным новым апісаньню тае самае зьявы ці прадмету, маюць мала сабе роўных у нашай літаратуры і прадстаўляюць адно з найвялікшых артыстычных дасягненьняў Арсеньневай. Каб пераканацца аб гэтым, даволі, дзеля прыкладу, узяць хаця-бы апісаньні вонкавага выгляду беларускай вясковай дзяўчыны ў яе творах. Гэтак у вапавяданьню „*Зорка*“, дзяўчына, што паўстала з упалай на зямлю зоркі, мае такі выгляд:

„Вочы у дзяўчыны—возера глыбіны,
Ад павек кладзецца сінявата цень.
Валасы дзяўчыны—зорныя тканіны,
Серабрыста-белы месяца прамень.
Лёгкае убраньне з мглы празьднай раньня.
Абвілося хмаркай каля белых ног...
Уся яна іразіцца, квола серабрыцца,
Як адна з тых зораў, што раськідаў Бог“ (98).

Далей маем абраз сіроцінкі Галі ў вапавяданьню „*Шчасьце*“, у якой:

„Цёмныя косы, ружовыя шчочкі,
Вочы пралескі ці два васілёчкі,
Белыя, гладкія рукі і плечкі,
Голас, бы плюскат крынічанькі, рэчкі“ (102).

А вось абраз сінявокай Галіны ў вапавяданьню „*Тры браты*“, прыгожай вясковай дзяўчыны:

„Яе вочы—дзьве пэрлінкі,
Як дзьве раньнія расінкі,
Яе косы—жыта хвалі,
Што на сонцы дасьпявалі,
Яе вусны, як маліны,

**Стан, як стромкі ствол сасьніны,**
**Голас сьпеўны, пераліўны**
**Будзіць сум і вабіць дзіўна"**... (115).

І напасьледак такім-жа спосабам змалявана постаць Алёнкі ў «*Лебядзіным возеру*», прыгожай млынаркі:

**„За пагожы дзянёк прыгажэйшая,**
**За сонейка ў небе ясьнейшая...**
**З-пад павекаў прымкнёных гарэць, блішчаць**
**Яе вочы, дзьве зоркі зялёныя,**
**Крывяныя каралі на шыі вісяць...**
**Цела сонцам і лесам ўспаёнае,**
**Да вады, як чароцінка, клоніцца.**
**А як склоніцца,—пераломіцца"**... (127).

Кожны абразок гаворыць сам за сябе. Але ня толькі хворма Арсеньневай дзеіць на нашае ўражаньне сваёй вобразнасьцю і прасьцінёю; яна ня менш дзеіць і на наш слух. Яе хворма надзвычайна музыкальная, верш яе ня проста чытаецца, але плыве ў нашым уваабражэньню і пераліваецца, як беларуская народная песьня.

Галоўныя элемэнты творчасьці Арсеньневай, як глыбака поэтычнае ўспрыйманьне зьяваў роднае прыроды, здольнасьць вычуваньня ў ёй найвялікшага хараства, шчырае збратаньне з фантастычным сьветам народнае творчасьці, ды напасьледак сумна-мэлянхолічны й пяшчотны тон яе вершаў, дасканальна гарманізуюць з галоўнымі асаблівасьцямі беларускае народнае душы. Дзеля гэтага творчасьць Арсеньневай з гледзішча яе артыстычнага падкладу і тых элемэнтаў, на якіх яна аснавана, праяўляе ў сабе народна беларускі характар.

Другі бок выяўленьня беларускага народнага духа, ужо ня ў сфэры артыстычнай, але пераважна ў праграмова-ідэёлёгічнай, знаходзім у творах *Міхася Машары.* Ставячы Машару разам з Арсеньневай, як галоўных прадстаўнікоў сучаснае беларускае літаратуры ў Заходняй Беларусі, мы зусім ня маем на ўвеце ўважаць іх за роўных паміж сабой. Ведама, Машару яшчэ далёка да Арсеньневай. Аднак тое, што ўжо нам даў Машара, дае поўнае права паставіць яго ў сьцяг поэтаў, больш чымся сярэдніх. Машара на беларускім літаратурным гарызонце ёсьць адным з тых песьняроў, якіх ужо шмат выдала беларуская зямля. Машару, як і Купале, „мудрасьці кніжнай ня даў Бог пазнаці", і, як Купала вучыўся думаць і адчуваць у варунках работніка пры бровары, так школаю Машару быў астрог.

У аўто-біографічным лісьце да аўтара гэтага артыкулу Машара піша: „калі-б не астрог, не Грамада, я і сёньня мадзеў-бы ў цяжка мужыцкім жыцьцю, бяз жаднага духовага зьместу, із сьпячай думкай і нявыразна-падсьвядома-вострым імкненьнем у грудзёх, якое ганяла мяне ад 16 да 25 год у вандроўцы з аднаго да другога кута, ад аднаго проекту да шуканьня другога, пакуль напасьледак не абапёрся аб Грамаду й Лукішкі. 30 месячныя гасьціны, пераважна



*Міхась Машара.*

адзіночкі, разбудзілі думку, што скрысталізавала пагляды і неяк выразьней намеціўся жыцьцёвы шлях і перакананьні. І тут станоўка й грунтоўна азяўся за далейшы цяг самаадукацыі і духовага развою". З пасярод чытаных у вастрозе аўтараў найбольш прамовіў да ягонае душы Ясенін, які зрабіў ладны ўплыў на ягоную творчасьць, наўперад на яе першы пэрыёд, як гэта сьцьвярджае й сам аўтар у менаваным лісьце. Адзін з першых яго вершаў лучыў у вы-

дадзены ў 1928 г., зборнічак „*Рунь веснаходу*“, у гэтым-жа 1928 г. выйшаў маленькі зборнічак яго вершаў „*Малюнкі*“, рэшта друкавалася ў беларускіх часопісах, як „Шлях Моладзі“, „Нёман“ і інш. Вялікая лічба твораў Машары спачывае й да апошніх дзён у рукапісах, чакаючы друку.

Тэматыкай твораў Машаравых ёсьць наўперад грамадзкія матывы. Праўда, шмат ягоных твораў, асабліва зьмешчаных у зборнічку „*Малюнкі*“, маюць прыродаапісальны характар. Але й у гэтых вершах галоўным мотарам зьяўляюцца разважаньні на тэмы асабістыя й жыцьцёва-грамадзкія, якія ёсьць беспасярэднім рэфлексам уражаньняў над зьявамі ў прыродзе. Грамадзкія матывы лірыкі Машаравай пераважна маюць тон соцыяльна-нацыянальны—гэтыя два элемэнты ў грамадзкім разуменьню поэты зьяўляюцца неразлучнымі і адзін ёсьць дапаўненьнем другога. Каханьне роднае краіны — ёсьць найвышшай нотай у яго вершах. Беларусь—гэта адзіная мэта жыцьця й працы поэты. У вастрожным вершы „*Месяц рог свой павесіў на краце*“ („Нёман“, кн. II), поэта стараецца пазбыцца ўсіх важных думак, хоча згадзіцца з тым, што нясе яму хваля жыцьця і ён чуецца шчасьлівым, калі „Сваіх думак ружовыя путы.. бяз жалю аб краты разьбіў“. Адна толькі Бацькаўшчына, Беларусь, ня сходзе з думкі поэты і ён прызнаецца:

**„Толкі Ты, мая Матка-Краіна,**
**Радасьць песьціш у сэрцы адна;**
**Ні зашто Тваю жудзь не спакіну,**
**Буду піць з Табой чарку да дна“** (53).

Беларусь Машару ёсьць усім. Найгоршыя жыцьцёвыя злыбеды яму нястрашны, калі ён толькі будзе ў роднай Беларусі і бачыць яе шчасьце. Навет па сьмерці ён гатоў вырачыся абяцанага загробнага шчасьця, абы толькі вярнуцца ў родны край, калі гавора:

**„А памру... пайду у неба,**
**Богу шчыра памалюсь:**
**— Божа, Божа, выгань з неба**
**Жабраком на Беларусь!“** („Нёман“ I, 9).

А ў сваей лірычнай поэмцы „*Валачобнае*“ („Нёман“ III) поэта, адчуваючы поўнымі грудзьмі прыліў веснавое вялікоднае радасьці, моліцца Богу за лепшае заўтра Баларусі, славамі:

**„Расьпяты!—за шчасьце народу,**
**З крыжа здымі Беларусь!“** (85).

Галоўнай адзнакай твораў Машаравых ёсьць бадзёрасьць і сьветлы оптымізм. Гэтая бадзёрасьць лучыць яго з новай хваляй у беларускай літаратуры, якая ня знае тонаў мінорных жалю й безнадзеяньня. Пясьняр якраз у турме, у няволі, пачуў у сабе няўстрыманы прыліў сіл поэтыцкіх. Ён неадукаваны вясковы хлопец адчуў у сабе затоеныя сілы жыцьця і вялікае ймкненьне да красы. У адносінах да Машары знаходзіць вялікае пацьвярджэньне пагляд, што толькі ў гору й няшчасьцю родзіцца запраўдны гарт і моц духа.

**„Я паўстаў з цямры і плесьні**
**І згарэць хачу у песьні,“** (50), —

кажа аб сабе поэта ў вершы *„Я — сьвятляк начы маёвай“* („Нёман“, II). Крыніцаю оптымізму Машаравага ёсьць вялікая радасьць жыцьця й моцная вера ў творскія здольнасьці беларускага народу. Тое, што пясьняр будучы ў турме і разлучаны з тым, што чалавеку ёсьць найдаражэйшым, з воляй, ня муціць яго бадзёрага настрою і ён у адным з першых сваіх вершаў заклікае братоў па долі зазваніць астрожнымі кайданамі, каб пачуў увесь беларускі простор, але зазваніць „Чыстым гукам, новым звонам, Перамогаю,—ня стогнам“. („Руны веснаходу“, 26). У поэмцы *„Валачобнае“* кажа поэта: „Я—паверце — Веру ў шчасьце на зямлі“ (83), „Уся моц наша ў веры“ (84) — кажа поэта ў тым-жа творы, ды так-жа пад уплывам веры ў адраджэньне Бацькаўшчыны, ён пяе песьню, але

**„Гэта ня песьня — імкненьне,**
**Буйны вясновы прыліў**
**Веры ў Тваё Адраджэньне,**
**У заўтра ваколіц і ніў“** (86).

Оптымізм і бадзёрасьць Машары ёсьць натолькі важным матывам у яго творах, што ён гэтым хоча сябе адрозьніць ад старога пакаленьня і ўзыйсьці на шлях новы. Ён кажа:

**„Мае дзяды—згіналі каркі,**
**Цярпелі зьдзек і ласку палкі,**
**Хачу ўзыйсьці на шлях другі —**
**Я сын галоты і цямры.**
**Цярпеньня прэч! Ня час на стогны,**
**На енкі, сьлёзы і праклёны,**
**Здабыць хачу жыцьця правы —**
**Я сын галоты і цямры“! (Малюнкі“,** 9).

Апрача глыбокага патрыётызму й веры ў Адраджэньне Бацькаўшчыны, другой крыніцай оптымізму поэты ёсьць беларуская прырода. Поэта ўзгадаваны на сяле, на ўлоньні беларускае прыроды, ня мог застацца глухім на яе чары й хараство. Гэтая прырода сваім незгаданым зьместам улівае ў душу поэты новыя сілы і ён тады адчувае вялікую радасьць жыцьця. Гэтае апошняе асабліва выразна праяўляецца ў вершы «*Лыблю глядзець вясноваю парой*» („Малюнкі"), дзе поэта праз краты турэмнага ваконца гледзячы на хараство веснавога вечару, чуе ў сабе новы прыліў бадзёрасьці і ён кажа:

**„Люблю тады зірнуць у неба выш,**
**Скуль зорка ясная свой сьвет ліе**
**І хочацца сказаць жыцьцю:—„маніш,**
**Ёсьць многа сіл бадзёрых у цябе"** (8).

Апрача матываў грамадзкіх і патрыётычных ды прыроды, Машара стараецца таксама зьвярнуцца да беларускага фольклёру, чэрпаць адтуль матар'ял для артыстычнага апрацаваньня. Пры гэтым трэба зазначыць, што матывы глыбака фантастычныя, якія бачым у Арсеньневай, ня вабяць Машару і ён захоплюецца наўперад народнаю абраднасьцю, яе жывым і вясёлым настроем. Асабліва ўдала ў яго выходзяць напоў лірычныя поэмкі, пераважна з грамадзкімі дыгрэсыямі, пісаныя ў тон народнай песьні, зьместам якіх ёсьць асобныя праявы з народных абрадаў. Гэта: „*Калядніца*" („Наперад"), „*Радаўніца*" („Нёман", IV) і „*Вясельле*" (недрукаванае), якія складаюць цыкль твораў „*З вясковага разгулу*". Тут аўтар, даючы жывы малюнак вясковае абраднасьці, ці апісуючы свае ўражаньні, якія выклікаюць назіраньне вясковага жыцьця, надзвычайна ўмела патрапляе ў тон народнае песьні. Гэтыя творы адзначаюцца вялікаю сьвежасьцю й арыгінальнасьцю. Аўтар, працягуючы гэты цыкль твораў, можа ў меру дасканаленьня свайго таленту, прынесьці беларускай літаратуры вялікія здабыткі.

З боку хвормы і тэхнічнага выкананьня творы Машаравы яшчэ маюць многа заганаў. Яшчэ шмат дзе сустракаецца ў ягоным вершы многа шурпатасьці і ненатуральныя пераскокі ад аднае думкі да другое. Над хвормаю поэта яшчэ павінен многа папрацаваць. На карысьць аўтара трэба аднак падчыркнуць, што ў вапошніх яго вершах зазначаецца ладны поступ, верш яго робіцца што раз музыкальнейшым, як гэта бачым з ягоных вершаў „*Асеньнія напевы*", надрукаваных у гэтай кніжцы „Нёмну".

З гэтага кароценькага агляду творчасьці Арсеньневай і Машары бачым, што творчасьць гэтая як сваім зьместам,

так і галоўнымі матывамі артыстычнымі і выказаванымі ў ёй ідэямі мае ў сабе глыбокія народныя карані. Дзякуючы гэтаму „роднаму карэньню“, якім кармілася ўся беларуская літаратура, творы Арсеньневай і Машары найбольш народна-беларускія, нам блізкія й зразумелыя. Арсеньнева й Машара, як ужо казалася, у пераважнай меры прадстаўляюць сучасную беларускую літаратуру ў Заходняй Беларусі і ўзаемна дапаўняюць адно аднаго. У Арсеньневай найвышшым пастулятам ёсьць чыстая краса, якая існуе сама для сябе, яе творчасьць мае выключна на мэце бок артыстычны,—у Машары-ж пануюць матывы грамадзкія, яго творы—гэта гымны роднай Беларусі.

*(Далей будзе).*

М. ШКЯЛЁНАК.

# Копныя суды ў Беларусі.

(Канчатак).

Пазнаёміўшыся ў кароткіх начырках з конструкцыяй копнага суду, пярэйдзем да разгляду копнага судаводзтва, спыняючыся на найважнейшых і найхарактарнейшых яго мамэнтах.

Вышэй было зацемлена, што капа была ўстановай звычаёвага права і мела пад сабой стагодзьдзямі выраблены грунт. Апіраючыся на гэтым копным праве звычаёвым, скліканая капа й прыступала да свае дзейнасьці. Як было зацемлена вышэй, капа старалася кожную справу скончыць у тры зборкі. Першая зборка або гарачая капа складалася толькі з найбліжшых суседзяў пакрыўджанага і склікалася ім у тым прыпадку, калі „шкоднік“ пакінуў за сабой сьвежыя сьляды (прыкладам сьляды ног босых, абутых у лапці ці боты, сьляды жывёлы, колаў і г. д.), па якіх можна было за ім гнацца.

Калі пакінены праступнікам сьлед прыводзіў капу да якогась сяла або двору, капа выклікала яго жыхараў і дамагалася адводу сьледу, г. зн. доваду, што сьлед не канчаецца ў дадзеным селішчу, а йдзе далей. Калі капа пераконавалася ў праўдзівасьці гэткага доваду, дык вяла сьлед далей. Там, дзе сьледу не маглі або не хацелі адвесьці, капа рабіла свой прысуд, што тыя, каторыя не адвялі сьледу, павінны былі самі лічыцца за шкоднікаў і ад-

казаваць, калі ня знайдуць між сабой praступніка. Звычайна праступнік борзда знаходзіўся і тады павінен ён быў адказаваць перад капой.

А калі праступнік сьледу за сабой не пакінуў або калі справа не вымагала пасьпеху, тады капа зьбіралася на звычайным сваім месцу — капавішчу і была шмат люднейшай. Тутака копныя судзьдзі раней, чымся пачаць суд, рабілі між собку парадак, займалі месца, правяралі ці ўсе ёсьць і г. д. Па гэтых хвармальнасьцях пакрыўджаны, заняўшы сваё месца, выясьняў сваю жалабу, выказуючы адначасна асобу шкодніка, калі яна была пакрыўджанаму ведамай. А калі асоба шкодніка жалабніку ня была ведамай, ён проста тады заяўляў капе, што шкодніка ня ведае і прасіў у вельмі далікатнай хворме капу, каб яна таго шкодніка знайшла і адпаведна пакарала.

Выслухаўшы жалабу пакрыўджанага, капа, калі асоба шкодніка ня была ведамай, прыступала да нарады й шуканьня „між сабой" шкодніка. Нарада была ў тым, што кожны копнік даваў сваім сябром найдрабязьнейшае выясьненьне за ўсіх тых, прадстаўніком каторых ён быў, ці запраўды між імі можа быць шкоднік. Калі гэтымі супольнымі стараньнямі шкодніка выкрыць не ўдавалася, справу адкладалі да другое, трэйцяе а навет і чацьвертае „завітае" капы. А ў гэтым часе суд і асабліва пакрыўджаны стараліся лучыць на сьлед шкодніка. Аднак у большасьці прыпадкаў шкоднік борзда выкрываўся й станавіўся перад капой. Калі ён да віны не прызнаваўся, тады пакрыўджаны павінен быў *чыніць довад, даводзіць* віну адказуючага. Найважнейшымі довадамі былі сьведчаньні сьведак,*) прысяга і г. зв. ліцэ (прадмет крадзены або прылада, пры помачы якое было споўнена прыкладам убіўства або іншы праступак). Абвінавачаны ў свой чарод меў права зьбіваць довады пакрыўджанага, рабіць г. зв. „адвод", „вывад".

Кажучы аб довадах з боку пакрыўджанага і адводзе з боку абвінавачанага, трэба зацеміць, што судаводзтву капы былі ведамы спосабы, з помаччу каторых як пакрыўджаны так і абвінавачаны маглі ўзмоцніць паказаньні собскія і сваіх сьведкаў. Гэтымі спосабамі былі: 1) *кіданьне шапкі* і 2) *прыстаўленьне нагі да галёнкі праціўнікавае.*

Першы спосаб быў у тым, што адна старана, хочучы зусім здацца на паказаньні сьведак, заклікала, кідаючы

---

*) XVIII том дае пэўныя асновы дзеля таго, каб цьвердзіць, што капа, калі й дапушчала жанчынаў як сьведак, дык рабіла гэта вельмі неахвотна й выняткава. Затое жаліцца перад капой жанчыны дапушчаліся аднолькава з мужчынамі.

сваю шапку, другую старану зрабіць тое самое. Гэткім парадкам паказаньні сьведак набіралі асаблівае вагі як у вачох староnaў, гэдак і ў вачох судзьдзяў.

Другі спосаб—прыстаўленьне нагі да галёнкі праціўнікавае—як відаць з актаў XVIII тому, меў шмат глыбшае й вялікшае значэньне ў копным судаводзтве за першы. Нажаль, аднак дадзеных аб ім ёсьць так мала, што немагчыма ўстанавіць у чым было гэта глыбшае значэньне. Найпраўдападабней значэньне яго было ў тым, што тая старана, каторая гэтым спосабам хацела ўзмоцніць сваё выясьненьне й паказаньне сьведак, выстаўляючы нагу, гадзілася з утратай яе на прыпадак, калі паказаньні сьведак не пацьвердзяць яе собскіх выясьненьняў. Спосаб гэты ўжываўся вельмі рэдка і сама капа называла яго „сьмелым“.

Вельмі важнае значэньне, як довад у копным судаводзтве, мела *прысяга*, да каторае часта зварочаваліся пакрыўджаны, абвінавачаны і на‘т сама капа, прапануючы, асабліва калі справа была няясная, абвінавачанаму „*адпрысягнуцца*“, што азначала ачысьціцца прысягай ад узьведзенага падазрэньня. Прысягалі ў царкве або касьцеле ў быцьцю духоўніка. Да нас дайшоў тэкст старадаўняе прысягі ў беларускай мове. Зьмешчаны ён у вакце № 308 XVIII тому, датычачым абвінавачаньня ў 1648 г. шляхцічаў Міхайлы й Івана Гараглядаў шляхцічам Пінскага павету Тукальскім у пакражы баброў. Быў ён гэткі: „Я Міхайла Якававіч і я Іван Антонавіч Гарагляды Сошняве Вылазкія прысягаем Пану Богу усемагушчаму, у Тройцы сьвятой Ядзінаму на том, іж што на капе абжалаваў нас яго міласьці пана Тукальскага ўраднік, Іван Драздовіч, а пабіцьце баброў і палавеньне воных зялезамі за возерам у Вузкам ад Лядзіна. Каторых мы баброў за возерам у Вузкам ад Лядзіна ніякім спосабам ня білі, ані лавілі, ані а шкодніку ня ведаем. На чом, яка справядліве прысягаем, так нам, Пане Божа, памазі, а есьлі несправядліве, Пане Божа нас убі“. Хто прысягнуў, той бый вольны ад віны й кары. Пунктам кульмінацыйным, да каторага ймкнулася ўсё судаводзтва капы, было прызнаньне свае віны абвінавачаным. Звычайна так здаралася, што абвінавачаны, бачачы проці сябе довады пакрыўджанага, прызнаваўся ў праступку і тады наставаў прысуд. А калі абвінавачаны, нягледзячы на забраныя проці яго довады, не прызнаваўся да віны, капа нярэдка ўжывала г. зв. *муку*, г. зн. біла абвінавачанага сьпярша дубцамі, а калі гэта не памагала, паддавала яго дзейнасьці агню. Мукай кіраваў пакрыўджаны часта

з помаччу нанятага дзеля гэтай мэты „містра” або ката. Самахвотнае прызнаньне свае віны не заўсёды звальняла абвінавачанага ад мукі. Чуючы прызнаньне, прысутныя на капе, у каторых здарылася раней якая колечы шкода, а злодзей ня быў выкрыты, прасілі капу, каб яна дазволіла ім узяц абвінавачанага на муку з мэтай выдабыць ад яго новае прызнаньне. Капа часта давала падобны дазвол.

Характарызуючы агулам копнае судаводзтва з гледзішча асноваў сучаснае каральнае процэдуры, трэба азначыць копны процэс як тыпова *інквізыцыйны*, бо дакумэнты XVIII тому пацьвярджаюць station становуўка, што капа ня толькі судзіла шкодніка, але адначасна яго абвінавачвала і агулам прыймала дзейнае ўчасьце ў яго выкрыцьцю. З гэтата гледзішча копны процэс ня розьніўся ад судаводзтва ў той час, ужыванага каральнымі судамі на Заходзе й Усходзе Эўропы, бо разьдзел ролі суду ад ролі абвініцеля настаў ладне пазьней, калі копныя суды перасталі ўжо існаваць.

Копны суд нічым ня быў абмяжаваны ў вышыні й родзе кары. Капа ня раз асуджала вялікіх праступнікаў на кару сьмерці, прычым прысуды спаўняліся часта на месцу. Кара сьмерці выпаўнялася *павешаньнем, спаленьнем* (за цяжэйшыя праступкі, прыкладам чараўніцтва, кража ў сьвятынях) і *чацьвертаваньнем* (у прыпадку, калі судзілася якая колечы вялікшая банда, што была вельмі небясьпечная і зрабіла мноства шкоды). Звычайна-ж капа засуджавала ад вінаватага на карысьць пакрыўджанага адшкадаваньне ў грошах або натуры. Ёсьць некаторыя дадзеныя ў XVIII томе, што капа ўжывала, але вельмі рэдка, кару пазбаўленьня волі. Некаторыя копы мелі навет свае вязеньні. Нажаль бліжэйшых дадзеных аб гэтым родзе кары няма, а тых весткаў, што падае ў гэтым пытаньню XVIII том, не стае, каб зрабіць якія колечы абаснаваныя вывады.

Дзеля таго што копныя зборкі бывалі вельмі часта і займалі копным судзьдзям мноства часу і вымагалі ад іх разумовае, часта вельмі цяжкое працы, і накладалі на іх маральную адказнасьць,—ад даўных часоў паўстаў звычай, паводле якога пакрыўджаны з засуджанае на яго карысьць сумы, павінен быў некаторы процэнт заплаціць судзьдзям у надгароду за іх працу. Палову з гэтае платы копнікі бралі сабе, а другую аддавалі засуджанаму, а калі той ня браў, адносілі яе ў гродзкі суд. Плата гэта звалася *перасудам* або *памятным*. Былі гэта свайго роду кошты процэсу.

Гэтак прадстаўлялася судаводзтва копнага суду ў галоўных асновах. Процэс гэты зьмяшчаў у сабе мноства дэ-

таляў, нязвычайна цікавых і характэрных, але разгледзіць іх у васадзе гэтае невялікае працы зразумела немагчыма.

На заканчэньне трэба ўспомніць аб тых адносінах, у якіх быў копны суд да іншых гаспадарскіх судовых установаў, аб каторых кажа Статут 1588 г. Разгляд актаў XVIII тому пацьвярджае той вывад, што капа ўва ўсіх прыпадках свае дзейнасьці старалася падтрымаць цесную сувязь з агульнымі гаспадарскімі судовымі ўстановамі, а наўперад з *гродзкім судом* тае мясцовасьці, дзе была капа. Апошняя ахвотна аддавала разгледжаныя ўжо справы на перагляд гродзкаму суду і гадзілася з тым, калі гродзкі суд адмяняў яе прысуд. Трэба аднак сконстатаваць, што прыпадкі адмены прысуду капы былі нязвычайна рэдкімі.

Першай асобай, што беспасярэдне лучыла капу з гродзкім судам, быў *возны* або *віж*, без прыбыцьця каторага не магла пачынацца прынамся апошняя „завітая" капа. Роля віжа была вылучна ў тым, што ён абавязаны быў акуратна запісаць прабег капы ў пратакол і гэту г. зв. *рэляцыю* прадставіць гродзкаму суду дзеля ўпісу ў вактавыя кнігі апошняга. Гэтакім спосабам паўсталі акты аб копных судох, сабраныя Віл. Арх. Ком. ў XVIII томе.

Дзеля таго што копныя судзьдзі пераважна былі няпісьменнымі і ўсе пастановы ня вылучаючы й прысуду рабіліся вусна, рэляцыі віжовы набіралі асаблівае вагі й значэньня, бо былі адзіным пісьменным дакумэнтам аб скліканьню капы. Дзеля таго, як стараны працэсу, гэтак капа і сам гродзкі суд вельмі рупіліся аб тым, каб рэляцыя віжова адпавядала праўдзе. З гэтай мэтай гродзкі суд ня ўпісаваў рэляцыі віжа, пакуль выбраныя капой прадстаўнікі не пацьвярджалі, што прабег капы адбыўся запраўды так, як запісана ў рэляцыі.

Тутака трэба зацеміць, што да канца XVI стагодзьдзя рэляцыі віжоў пісаліся вылучна ў беларускай мове. У першай палове XVII стагодзьдзя сустракаюцца, але рэдка, рэляцыі, пісаныя нязвучнай польскай мовай і толькі ў другой палове XVII стагодзьдзя рэляцыі ў польскай мове сустракаюцца часьцей, чымся ў беларускай. Праз увесь аднак-жа час быцьця копных судоў г. зв. *сусцэпт* (пачатковая формула аднолькавая для ўсіх рэляцыяў) пісаўся ў беларускай мове.

Копныя суды пачалі чэзнуць у Беларусі ад другое паловы XVII стагодзьдзя і пры гэтым ладне раней шчэзьлі яны ў местах, дзе, бязумоўна, выціснула іх майдэборскае права. Глыбокія зьмены ў соцыяльнай структуры тагачаснага беларускага грамадзянства, а наўперад ладнае пашы-

рэньне правоў шляхты коштам сялянства, вельмі ад'емна адбіліся на быцьцю копных судоў. Шляхта, здабыўшы сабе maximum прывілеяў і канчальна стаўшыся кіруючым у гаспадарстве станам, ня толькі не хацела ўжо прынцыпова засядаць з падданымі на аднэй лаве ў характары раўнапраўных судзьдзяў і падзьдзержаваць капу, але пачала першая з гэтай установай барацьбу, якая выражалася ў тым, што шляхта перастала спаўняць недагодныя сабе прысуды капы і вельмі часта навет разганяла яе. А дзеля таго што капа ня мела ў сваіх руках ніякіх сродкаў, з помаччу якіх магла-б непакорных прымусіць споўніць свае пастановы, да яе, як суду, памалу пераставалі зварочавацца навет і сяляне, падданыя ўжо юрысдыкцыі паноў і ў іх шукаючыя абароны. Гэта была найгалаўнейшая прычына заняпаду копных судоў. Нятрэба аднак думаць, што капа, дзякуючы новым недагодным абставінам, самахоць падпісала сабе сьмерць. XVIII том дае мноства довадаў барацьбы капы за сваё быцьцё, правы й незалежнасьць. Сяляне разумелі, што, дзякуючы іх лічбавой перавазе, капа была фактычна іхняй установай і часта вельмі станоўка праціставіліся шляхце, каторая пасягала на яе быцьцё*). Барацьба гэта аднак скончылася няшчасна для капы, каторая памалу чэзла, хоць ня было ніякае гаспадарчае пастановы аб яе скасаваньню.

Важнай прычынай заняпаду капы трэба лічыць яшчэ агулам уплыў польскае культуры на беларускую шляхту. Як было сказана на пачатку, польскае жыцьцё ня ведала падобнае судовае ўстановы і не магло, ведама, толераваць яе ў другой палове Рэчыпаспалітае, хоць-бы дзеля таго, што капа ладне абмежавала ўладу шляхты, каторая імкнулася да здабыцьця поўнае „залатое вольнасьці" і запраўды яе здабыла. Беларуская шляхта, паддаючыся ўплывам польскае шляхоцкае культуры, ахвотна пераймала палітычныя й соцыяльныя імкненьні польскае шляхты няпрыхільныя капе і пераносіла іх на собскі грунт. Копныя суды канчальна зыйшлі з гістарычнае сцэны ў другой палове XVIII стагодзьдзя.

Гэткім парадкам пачатак заняпаду копных судоў у пал. XVII в. лучыцца з пачаткам сходу беларускае культуры, а канец быцьця копных судоў зыйшоўся із зьліквідаваньнем астачы беларускае гаспадарственасьці.

---

*) Сьведчуць аб гэтым напр. акты № 141 й 186 XVIII тому.

*Проф. А. Савіч.*

# Права патронату і брацтвы ў Беларускай Царкве.

У культурным жыцьцю Беларусі вельмі вялікую ролю згулялі такія орыгінальныя зьявы, як патронат і брацтвы. Брацтвы, напасьледак, прынялі хорму таго-ж патронату, толькі колектыўнага. Дзеля таго задзержымся спачатку на патронаце ў яго беспасярэднім выглядзе. Якія былі тыя правы, што ўходзілі ў паймо патронацтва? Звычайна часткавымі хормамі патронату прынята лічыць наступныя: 1) права апекі (jus patronatus) над патронаванымі ўстановамі, забясьпечаньне іх усім патрэбным; 2) права „падаваньня“ (jus donandi) цэркваў і манастыроў ведамым асобам; 3) права рэкомэндацыі (jus praesentationis, jus praebendi) кандыдатаў на месцы сьвяшчэньнікаў і ігуменаў, напасьледак 4) права кіраваньня й суду ў ведамых граніцах, адпаведна да агульных прынцыпаў права гаспадарственага й царкоўнага*) У вазначэньню йстоты патронату гісторыкі хістаюцца. Адныя ўтажсамляюць патронат з ктытарствам у візантыйскім значэньню гэтага слова; другія разглядаюць jus patronatus, як элемэнт фэодальнага права, г. зн. як права сэньёра распараджацца ня толькі землямі, але й установамі, што былі на іх. Некаторыя гатовы відзець у праве патронату элемэнты гаспадарственага права, паколькі «падаўцы» маглі ўжыцьцяўляць сваё права толькі з пацьверджаньня вялікага князя. Ня важацца права патронату адлучаць ад сфэры царкоўнага права на тэй аснове, што патронат і царкоўнае права пры нормальным сваім развою супакойна ўжываліся. Проф. Уладзімірскі-Буданоў у сваім грунтоўным артыкуле: „Церковныя имущества въ Юго-Западной Россіи XVI в.“ **) прабуе выясьніць розьніцу паміж тэрмінамі «ктытарства», „jus patronatus“ і „падаваньне“. Паводле яго, гэтыя тэрміны ня тое самае значаць. Нельга наўперад мяшаць „ктытарства“ й „jus patronatus“. Ктытарства гэта закладзіны й забясьпечаньне тае ці іншае царкоўнае ўстановы. Паводле свайго характару, ктытарства —зьява прыватнага права. Гаспадар можа быць ктытаром адно закладзеных ім самым ці яго прэдкамі цэркваў. Аддаю-

*) Чистовичъ, Очеркъ исторіи Западно-русской церкви, т. I, бал. 197.

**) Архивъ Юго-Зап Росс., т. IV, ч VIII, прадмова.

чы тую ці іншую маемасьць царкве, ктытар адмаўляецца ад яе; суб'ектам правоў на маемасьць (domini loco) робіцца ўжо царква. Гэтак, на думку Уладз. Буданова, ктытарства ня мае ніякіх адносінаў да права гаспадарственага. Тым часам jus patronatus, дзе ё мамэнт заканадаўчы й судовы, у ладнай меры пранікнута элемэнтамі гаспадарственага права. Jus patronatus — зьява заходне-эўропэйскага паходжаньня. У пачатку стварэньня зах.-эўропэйскіх гаспадарстваў царква дастевала ад гаспадарства як урады, так і маемасьці на ленным праве. Гэткім парадкам правамочным ктытаром было гаспадарства, а не царква і не закладчыкі цэркваў і манастыроў. Ад часу ходаньня цэсараў і папежаў, асабліва за інвэстытуру, паміж царквой і гаспадарствам ствараюцца ўжо новыя адносіны на аснове апекі гаспадарства і фэодальных валадароў над царквой бяз усякіх правоў гэных над гэтаю. Гэта й ё jus patronatus, істота каторага зводзіцца да абароны царквы з боку патронаў. Беларускае права „падаваньня“ гэткім парадкам сумясьціла рысы візантыйскага ктытарства з jus patronatus у заходне-эўропэйскім значэньню гэтага слова. Гэтак, прыкладам, права падаваньня зьмяшчае ў сабе прыватна-праўны элемэнт, паколькі ў ім устанаўляюцца некаторыя адносіны „падаўцы“ да царкоўнае ўстановы і ейнае маемасьці (візантыйскае ктытарства), з другога боку, права падаваньня зьмяшчае ведамыя адносіны да найвышшае ўлады гаспадарственае. Галоўная загана разуменьня jus patronatus у Уладзімірскага Буданова ў тым, што паважаны аўтар разглядае гэтую зьяву як штось, што канчальна раз на заўсёды вытварылася. А мы думаем, што права падаваньня, гэтае характэрнае зьявішча ў эпоху фэодальных адносінаў, зьяўляючыся рэзультатам соцыяльна-гаспадарскіх і палітычных умоваў, перажыло цэлую эволюцыю ад часу свайго красаваньня да поўнага ўпадку. Дыкжэ калі вывучаць права „падаваньня“ ў гэткім гісторычным процэсе, дык мо' й ня прыйдзецца выдумляць хітрыя гіпотэзы аб характару ягоным і шукаць аналёгіяў напару вельмі штучных і далёкіх. Мясцовы сэньёр меў уладу і над тымі царкоўнымі арганізацыямі, што былі на зямлі ягонай. Ён навет ставіў гэтыя цэркны й манастыры „сваім коштам“, фундаваў іх, быў ня толькі падаўцаю, але й абароньнікам свайго „багамольля“. Ведама, што гэткае апекі патрабавалі невялічкія цэрквы й манастыры. Наадварот дужыя царкоўныя ўстановы і вялікія манастыры балей хацелі мець сваім патронам самога вялікага князя. Велічынёю сваіх земляў яны зусім раўняліся з вялікімі зямельнымі магнатамі, землі іхнія былі раскіданы часта ў розных

паветах, дык і прызнавалі яны над сабою адно вышшы сувэрэнітэт вялікага князя. Часта манастыры самі жадалі перайсьці пад „падаваньне гаспадарскае“, каб усьцерагчыся „ўступаньня“ да іх мясцовых уладыкаў *). Калі мы назіраем пераход манастыроў пад протэкторат вялікіх князёў, каторыя тут-жа завуцца „падаўцамі, фундатарамі й абаронцамі хлябоў духоўных“, **) дык гэтае зьявы ня можам начай назваць, як раскладам фэодальных адносінаў. У XV в., калі фэодальныя адносіны ў Беларусі яшчэ дужыя, калі вялікакняская ўлада яшчэ толькі плавае па зьверху фэодальнага сьвету права падаваньня, здаецца, належа безгранічна фэодальным валадаром. Яны ня толькі самі зьўляюцца поўнымі гаспадарамі царкоўных арганізацыяў, што былі ў землях іхніх, але й раздаюць іх сваім слугам ***). Жаролы дазваляюць нам прасачыць і тыя мамэнты, калі вялікакняская ўлада ў процэсе ходаньня з фэодальнымі традыцыямі прысабечавала сабе вылучнае права падаваньня. Прывядзём адзін характэрны прыпадак. У 1549 г. Жыгімонт Аўгуст становука забараніў княгіні Аляксандры Астроскай, „абы ў воласьці й сёла ўладычнія з провентамі ўсімі яму належачыя ні ў што ся ня ўтручала“. Цікаўныя мотывы гэтае забароны: „бо есьлі князь малжонак твой—кажа загад вялікага князя—тот замак Тураў на айцы нашым.... выслужыў, а тая епіскопія Тураўская з даўных часоў падаваньне ёсьць нашае гаспадарскае, да чаго ты нічога ня маеш“ ****). Гэткім парадкам, прызнаючы за княгіняю Астроскай права на валаданьне Туравам, вялікі князь ня лічыць яе „падаўцай“ Тураўскае епіскопскае кафэдры, як гэта належылася-б паводле агульных прынцыпаў фэодальнага права. Вялікі князь Жыгімонт IV балей чымся хто з яго папярэднікаў ужыцьцяўляў сваё права найвышшага „абаронцы й падаўцы цэрквей Божых“...

Але перш чымся канчальна зыйсьці із сцэны патронат пераламіўся ў варыгінальнай хворме ўмяшаньня ў царкоўнае жыцьцё меск іх купцоў і рамесьнікаў.

Ужо ў другой палове XV в. ў Беларусі („Літве“) па мястох ствараецца вялікая соцыяльная сіла — таргова-прамысловы капітал. Арганізацыя мескага самаўраду паводле

---

*) Прыкл., гл. Акты Южной и Зап. Росс. т. I, № 233.

**) Арх. Юго-Зап. Росс. ч I, т I, № 58.

***) Прыкл. у 1465 г. 9-га лютага княгіня Вульляна Кобрынская разам із сынам сваім Іваном аддала слузе Юдзе „у вечнае валаданьне“ кобрынскую Петрапаўлаўскую царкву з усімі яе прыбыткамі. (Акты Южной и Зап. России, т. I, № 226.

****) Арх. Сборн. т. VI, № 92.

майдэборскага права, як ня трэба ляпей, памагала росту корпарацыйнае сьвядомасьці маладое буржуазіі. Дужая з гаспадарскага боку беларуская буржуазія не магла аставацца нэўтральнай і да царкоўных справаў, асабліва да бесконтрольнага загадаваньня мясцовых епіскопаў царкоўнай маемасьцяй. Праваслаўная царква ня вылучала магчымасьці ўмяшаньня сьвецкіх вернікаў у царкоўнае жыцьцё, а права падаваньня, як мы бачылі ўжо, давала некаторыя праўныя асновы мяшчанам мяшацца ў царкоўныя справы. Жаролы дазваляюць нам даволі дэтальна прасачыць этапы гэтага ўмяшаньня. У 1511 г. „панове бурмістры й прысяжнікі места віленскага“ прасілі (ўжо не ўпяршыню) ў мітр. Язэпа (Салтана), каб ім было дазволена быць пры здаваньню па сьмерці сьвяшчэньніка царкоўнае маемасьці намесьніку мітрапалітаваму. Апісаньне гэтае маемасьці павінна быць укладзена ў 2-х экзэмплярох: адзін—намесьнікам, а другі імі—мяшчанмі. Язэп нязычліва аднёсься да просьбы мяшчанаў, заявіўшы, што абраньне ерэйскае й падаваньне царквы й пасадаў Божых ёсьць дзела вялікага сьвяціцеля. Мяшчане могуць прасіць назначэньня таго ці іншага кандыдата на духоўнае месца, але выбраньне яго залежа вылучна ад волі яго—мітрапаліта. Ключ царкоўны перадае новаму сьвяшчэньніку мітрапаліт, а бурмістры прысылаюць 2—3 прадстаўнікоў ад мяшчан, каб былі пры перадаваньню новаму сьвяшчэньніку царкоўнае маемасьці *). Хаця прэтэнзіі мяшчанаў ня былі названы апошнімі сваім іменем, але мітрапаліт характарызуе іх правільна і пастараўся адкінуць жаданьне няпрыемных „падаўцоў“. Няўдача не задзержыла віленскага мяшчанства і яно далей дамагалася дзейнага ўчасьця ў царкоўных справах. Мітр. Макар (з 1534 г.) мусіў пайсьці на ўступкі і выдаў мяшчанам грамату, паводле каторае віленскія цэрквы былі выняты з-пад гаспадарскае ўлады і перададзены „пад справу мяшчанскую“. У 1542 протопоп і ўсё віленскае праваслаўнае духавенства падало жалабу вялікаму князю на тое, што віленскія бурмістры, райцы й мяшчане праваслаўнае веры выпрасілі сабе ў мітрапаліта грамату і паводле яе бяруць пад сваю справу ўсіх духоўных асобаў, вымагаюць ад іх пакорнасьці, аддаляюць ад цэркваў непакорных і з дазволу мітрапаліта аддаюць цэрквы іншым. Вялікі князь быў абураны, як віленскімі бурмістрамі, райцамі й мяшчанмі, так і ўчынкамі мітрапаліта. Дзьвюма сваімі граматамі (адна мітрапаліту, а другая віленскім бурмістрам і райцам)

*) Арх. Сборн. т. VI, № 4.

вялікі князь адмяніў пастанову мітрапалітаву і прывярнуў ранейшае палажэньне, паводле каторага бурмістры або прадстаўнікі ад мяшчанства павінны быць пры прыйме царкоўнае маемасьці новым сьвяшчэньнікам і могуць выбіраць свайго кандыдата на духоўны ўрад, але назначаць апошняга мітрапаліт будзе адно тады, калі знайдзе яго годным. Аднача‌сна з гэтым вялікі князь прызнае за мяшчанмі права контролі над захаваньнем царкоўнае маемасьці. *) Але віленскія мяшчане ня так лёгка маглі адмовіцца ад сваіх правоў. Мы ведаем цэлы сьцяг жалабаў вялікаму князю з боку мітрапалітаў на мяшчан, што яны „людзей царкоўных к праву і платам мескім прыварачаваюць, на ратушы судзяць і Цэркві Божай і яму мітрапаліту крыўды й шкоды чыняць.“ **) Але рост мескага капіталу ўсё павялічаўся, дзеля таго ходаньне з ім рабілася трудным ня толькі мітрапалітам, але й вялікакняскай уладзе. У 1582 г. вялікі князь Сьцяпан Батура ў сваёй грамаце мітр. Анісіфору заве віленскіх бурмістраў, райцаў, лаўнікаў і іншых мяшчанаў „фундатарамі й апатрыцелямі“ цэркваў закону грэцкага ў Вільні, паказуе на тое, што яны, мяшчане тыя цэрквы і Траецкі манастыр (што дагэнуль яшчэ быў у дзяржаньню мітрапаліта) „ўсялякім будаваньнем патрэбным і тэж званамі, кнігамі, абразамі й уборамі каштоўнымі і іншымі дастаткамі й патрэбамі водле прамажэньня сваяго апатруюць і надаюць“***). У 1854 г., у вадказ на просьбу віленскіх мяшчанаў, вялікі князь перадаў ім „на вечныя часы“ Траецкі манастыр „у ўладу, прысуд, справаваньне й абарону“. Адгэнуль архімандрыта павінны былі выбіраць мяшчане, а мітрапаліт абавязаны быў пасьвячаць выбранага; архімандрыт бяз ведама й волі мескіх уладаў ня мог распараджацца маемасьцяй і прыбыткамі манастыра; дзеля бліжшае контролі над маемасьцяй манастырскай места выбірала 2 асобы, каторыя што год павінны былі мескім уладам „здаваць лічбу“ (справаздачу) аб стане манастыра. ****) Гэткім парадкам, у другой палавіне XVI стаг. мескае мяшчанства магло лічыць умацаваным свой уплыў у царкоўных справах. Адносіны яго да мескіх

*) Акты Зап. Росс., т. II, № 219.

**) Арх. Сборн. т VI, №№ 10, 12, 24 і інш. У 1569 г. мітр. Ёна жалаваў вялікаму князю Жыгімонту Аўгусту „на войта, бурмістры, райцы і ўвесь урад мескі места сталечнага віленскага“ за тое, што яны „усі прывільлі й лісты на ўсе наданьне й ухундаваньне“ мітрапалітава самадумам „да сябе і ў схаваньне свае ўзялі“ (ibid. № 26)

***) Арх. Сб. т VI, № 37.

****) Акты Зап. Росс. т. III, № 144.

цэркваў і манастыроў былі такімі, як адносіны зямельных валадароў да іх вотчыннага манастыра або царквы.

Ужо ў XV стаг. ў беларускіх мястох пачынаюць паўставаць апрычоныя арганізацыі брацтвы, галоўна з тых-жа мяшчанаў, каторыя фактычна бяруць у свае рукі й кірунак царкоўнага жыцьця. У ўсходніх патрыярхаў, што прыяжджалі сюды ў XVI стагодзьдзю, брацтвы даставалі адумысловыя граматы, каторыя звальнялі іх ад падсуднасьці мясцоваму епіскопу і ставілі іх у беспасярэднюю залежнасьць ад патрыярха.

Беларускія царкоўныя брацтвы ўжо неадноўчы былі прадметам навуковага дасьледаваньня, і цяперака мы маем цэлы сьцяг навуковых паглядаў аб прыродзе іхняй і паходжаньню. С. Салаўёў, навуковы абароньнік тэорыі радовага жыцьця, выводзе брацтвы з т. зв. стара-рускіх братчынаў або складанкавых чэсьцяў. Грамадзкія арганізацыі, падобныя да брацтваў, былі ў Ноўгарадзе й Пскове, дзе братчыны судзілі, як судзьдзі былі Брацтвы і ў Беларусі, дзе іх развою прыяў цэховы лад. Але ў усіх паказаных прыпадках брацтвы былі спрадвечнай мясцовай зьявою, што захавалася асабліва ў Беларусі й Украіне дзякуючы цэхам і майдэборскаму праву*).

У сувязь з майдэборскім правам і цэховымі арганізацыямі ставіць брацтвы й М. Каяловіч. Але ў брацтвах, найкарысьнейшай царкве арганізацыяй, што злучыла ўсіх найлепшых людзёў свайго часу, М. Каяловіч бачыць толькі рэлігійна-моральнае й культурна-асьветнае значэньне. У ходаньню брацтваў з епіскопатам менаваны наўчоны бачыць толькі ідэйныя прычыны: рупатлівасьць аб веры мяшчанства і дэмаралізацыю епіскопату з прычыны патронату**). Падобным спосабам глядзяць на беларускія брацтвы гісторыкі царквы***). Орыгінальную й цікаўную працу

*) С. М. Соловьевъ, Исторія Россіи съ древн. временъ, т. VII, бал. 456 і наст.; пр. яго „Братчины“ (Русская Бесѣда, 1856 г кн. IV)

**) М. О. Кояловичъ, Чтенія по исторіи Западной Россіи, СПБ 1884, бал. 200—201. Пр. яго „Чтенія о церковныхъ западно русских братствахъ“ (День, 1862)

***) Прыкл. Флеровъ, О православныхъ церковныхъ братствахъ, противоборствовавшихъ уніи въ Юго-Западной Россіи въ XVI, XVII и XVIII в. СПБ, 1857; Папковъ, „Братства“, Очеркъ исторіи западно-русскихъ православныхъ братствъ. Москва, 1900, пр ягоны начырк „Древнерусскій приходъ“ (Богословскій Вѣстникъ, 1897, II — IV кн.); К. В. Харламповичъ, Западно-русскія школы, цыт. тв. і прамова перад абаронаю дысэртацыі (Христ. чт. 1899 г.); мітр. Макарій, Исторія русской церкви, т. IX — XI (адпаведныя разьдзелы); Чистовичъ, Очеркъ исторіи западно-русской церкви, ч. I; Кедровъ, Церковныя братства (Энцыкл. словарь Брокгауза и Ефрона, т. 75, бал. 95—99)

пасьвяціў выясьненьню характару брацтваў проф. Н. Скабалановіч: „Западно-европейскія духовныя гільдіи и западно-русскія братства“ *). Паводле Н. Скабалановіча, заходне-эўропэйскія духоўныя гільдыі найпрырадней маглі быць найбліжшаю пробкаю брацтвам. Гэтыя духоўныя гільдыі із Заходняе Эўропы прайшлі ў Беларусь у XIV — XV стаг. і «заахвочуючым спосабам» падзеілі на братчыны, што былі тут дагэнуль, адрадзіўшы іх у ведамых ужо нам з XV — XVI стаг. брацтвах. Што датыча званьня брацтваў імёнамі рамесьнікаў (прыкл. віленскае кушнерскае і інш.), дык гэтыя назовы, паводле Н. Скабалановіча, даваліся ад большасьці братчыкаў. Але брацтва зусім не складалася з людзёў аднае катэгорыі. Быць „упісаным у брацтва“ маглі й духоўныя асобы і на‘т шляхта; адныя й другія, ведама, ня былі сябрамі цэхаў. Віленскія кушняры, бяссумлеву, складалі цэх, мелі свой статут і зборкі, але з другога боку, яны арганізавалі й брацтва з рэлігійна-дабрадзейнаю мэтаю, каторае выходзіла за межы цэху. Гэтым і выясьняецца з аднаго боку падобнасьць брацтва да цэху, а з другога нябыцьцё ў статуце брацтва жадных прамысловых мэтаў. Апрача духоўных гільдыяў, у Заходняй Эўропе былі так званыя абаронныя гільдыі, што складаліся з мэтаю ўзаемнае абароны сяброў гільдыяў ад гвалтаў і несправядлівасьцяў магнатаў. Канечная патрэба арганізаваньня гэтага роду гільдыяў выклікалася слабасьцяй цэнтральнае ўлады і самадумам мясцовых фэодалаў. Гэтыя абаронныя гільдыі заходне-эўропэйскія, на думку Н. Скабалановіча, зрабілі ўплыў на паўстаньне рэлігійна-абаронных брацтваў беларускіх, што вялі хаданьне з каталіцтвам, а пасьля і з вуніяй. Ведама, падобнасьць у дадзеным прыпадку ня ў істоце справы, а ў мэтодах і спосабах... Апошняй ступеняй у развою заходне-эўропэйскіх гільдыяў Н. Скабалановіч ліча гільдыі прамысловыя, галоўнай мэтаю каторых было памагаць гандлю й рамяслу. Сябрамі купецкіх гільдыяў маглі быць толькі купцы, рамесьніцкіх — рамесьнікі ведамае адумысловасьці. Па прыкладу зах.-эўропэйскіх цэхаў ладзіліся рамесьніцкія брацтвы ў Смаленску, Полацку і ў іншых мястох.

Мы прыраўнальна драбязна задзержыліся на выкладзе тэорыі Н. Скабалановіча аб паходжаньню беларускіх брацтваў, як на грунтаўнейшай сярод падобных іншых. Аўтар стараецца паставіць вывачаную зьяву ў сувязь з падобнымі зьявамі Заходняе Эўропы. Гэта, ведама, зусім пра-

---

*) Христіанское Чтеніе (журнал), 1875 г. II, бал. 271—327.

вільны спосаб, але аналёгіямі ў дадзеным прыпадку няма патрэбы захапляцца, бо беларускія брацтвы маюць у сабе шмат індывідуальнага.

У гэткім палажэньню ў гісторычнай навуцы ё пытаньне цяперака аб паходжаньню й характары беларускіх брацтваў. Размавітасьць вучоных паглядаў, нам здаецца, выясьняецца тым, што кожны з дасьледавальнікаў задзержаваўся на аднэй якой-колечы старане гэтае мнагасьценнае зьявы, пакідаючы на баку асталыя. А гэтая акалічнасьць бывае з тае прычыны, што брацтвы не вывучаліся й не вывучаюцца ў процэсе іх гісторычнага развою. Тымчасам кожнае із старавечных брацтваў перажыло сьцяг эпохаў; можна сумлявацца, што мелі аднолькавы характар і тыя брацтвы, каторыя йснавалі ў вадзін час. Сказанае можна пацьвярдзіць адпаведнымі ілюстрацыямі. За Жыгімонта II віленскія кушняры ў 1538 г. зьвярнуліся да вялікага князя з просьбаю, каб ён „брацтва іх пры моцы захаваў і воныя артыкулы, што ані сабе злажылі й выпісалі лістом пацьвярдзіў“. Утым-жа (1538) годзе 31-га сьнежня кушнерскае брацтва дастала жаданы прывілей. З вялікакняскага тэксту таго прывілею мы даведуемся, што сябры брацтва на свой кошт куплялі мёд і „сычавалі“ на вялікія сьвяты: 1) у дзень сьв. Духа, 2) у сьвяты сьв. Мікалая, 3) на Каляды. У гэтыя дні яны давалі сьвечкі ў царкву і ладзілі брацкую чэсьць („мёд рассычоны брацтвам сваім півалі“). Калі ў брацтве павялічылася колькасьць сяброў, тады кушняры-братчыкі паставілі свой дом і апрацавалі статут („некаторыя артыкулы таму брацтву іх патрэбныя злажылі й выпісалі“). Гэты статут яны дзяржалі 80 год („ад асьмідзесят год свабодне й дабравольне аж да таго часу ужываючы“). *) Хоць меская адміністрацыя („урады духоўныя й сьвецкія, і войт, бурмістры й райцы места віленскага“) не перашкаджала быцьцю гэтага брацтва, але, каб усьцерагчыся ўсякіх прыпадкаў, сябры яго просяць вялікага князя пацьвярдзіць адумысловым лістом правы й статут гэтага брацтва. Далей ліст вялікага князя цытуе цікаўны статут гэтага брацтва. Сябры брацтва старшыя й малодшыя, што год выбіраюць старастаў, каторыя павінны загадаваць усімі справамі брацтва, фінансавымі й гаспадарскімі. Дзеля таго на помач ім назначаюць ключнікаў. Калі пройдзе год, старасты павінны „здаваць лічбу“ перад старшымі й малодшымі сябрамі брацтва. Да павіннасьці старасты паміж іншым належыла глядзець, каб сябры й госьці хораша ся-

---

*) Значыцца, брацтва было закладзена яшчэ да 1458 г.

дзелі ў брацкім доме, не казалі брыдкіх словаў, не ўзлачочаваліся на стол, не разьлівалі брацкага мёду, але прыстойна, і „ў меру“ пілі і нікому не рабілі шкоды. Калі хто-колечы ў чым правініцца, стараста такога павінен быў услышыць словам, а калі гэта не памагае, дык „віною брацкаю маюць караць, чым брацьця абложаць“. Каб усьцерагчыся стычкаў, забаронена было ўходзіць у брацкі дом з аружжам. На паседжаньне брацтва і на брацкую чэсьць мог прыходзіць і староньні чалавек — госьць, але хоць-бы ён быў шляхціч ці дваранін, мусіў сядзець на тым месцу, каторае яму стараста пакажа. Выхад з аднаго брацтва ў другое быў вольны. Умерлага сябру брацтва хавала на свой кошт. Бурмістры й райцы віленскія, як каталікі, так і праваслаўныя, ня мелі права перацягаваць (спадманаваць) да сябе, у свае брацтвы людзёў, што запісаліся ў кушнерскае брацтва. Менаваны ліст вялікага князя неаднаўчы падавалі на пацьвярджэньне наступным вялікім князём (прыкладам, у 1561 г., 1582 г., 1590 г. і 1608 г.). *) З гэтага мы робім вывад, што Віленскае кушнерскае брацтва йснавала прыраўнальна доўга і не зьмяняла свайго характару навет тады, калі ў тэй-жа Беларусі паўставалі новыя брацтвы з адумысловымі культурнымі й рэлігійнамісыянарскімі заданьнямі. Прыведзены намі статут віленскага кушнерскага брацтва—найстаршы сярод ведамых нам.

Арганізацыя віленскага кушнерскага брацтва зусім зыходзіцца з арганізацыяй заходне-эўропэйскіх гільдыяў духоўных. Мы ў гэтым прыпадку ахвотна прылучаемся да назіраньняў Н. Скабалановіча. З такой-жа арганізацыяй было на Украіне другое старавечнае брацтва — Львоўскае (закладзена ў 1439 г.). У Вільні ў 1582 г. было „панскае“ брацтва (бурмістраў і райцаў праваслаўнае веры). У „лісьце“ вялікага князя Сьцяпана Батуры сябром гэтага брацтва з 22 лютага 1582 г. кажацца, што яны „рассычуюць мяды водле даўных звычаяў сваіх“. **) Значыцца, брацтва было арганізавана раней. У 1584 г. той-жа вялікі князь у сваім прывілеі віленскім брацтвам заве па імені гэткія з іх: 1) панскае („бурмісьцерскае“ й „радзецкае“); 2) купецкае; 3) кажамяцкае (гарбарскае); 4) кушнерскае й 5) росскае (у мескай мясцовасьці Рось). ***) Гэтыя брацтвы былі й у XVII веку ****).

Паказанага тыпу брацтвы ня мелі асабліва шырокае

---

*) Собр. ніе древ. ихъ грамотъ и актовъ, ч II, № 16

**) Ibid., № 1.

***) ibid. № 2

****) ibid. №№ 23,—24 26 й 32

програмы дзеяльнасьці. Але здарэньні адчынялі перад брацтвамі новыя й шыршыя пэрспэктывы. Шляхоччаньне царкоўнае ерархіі, правам умацаванае ў Польшчы ў каталіцкай царкве статутам Петракоўскага сойму 1496 г. *), знайшло водгалас і ў Беларускім княстве. Асабліва памагала шляхоччаньню беларускае царквы jus patronatus. Мы ўжо бачылі, як брацтвы, што групаваліся ля царквы ці манастыра, маглі ў вадпаведны мамэнт паставіць у залежнасьць ад сябе й епіскопа. Даставанае ад праяжджаючых усходніх патрыярхаў права стаўропігіі легалізавала гэткае незалежнае палажэньне брацтваў. Мяняецца самы характар брацтваў. Прывядзём некаторыя ілюстрацыі гэтага. У 1586 г. заехаўся ў Львоў антыохійскі патрыярх Ёакім. Львоўскія мяшчане, відавочна, людзі дастатныя (яны маглі на свой кошт дзяржаць друкарню й школу!), зьвярнуліся да яго з просьбаю дазволіць закласьці ў Львове брацтва. Брацтва было закладзена і дастала статут Адзначаем некаторыя рысы брацкага статуту. Да брацтва маглі належыць мяшчане й шляхцічы й прадмяшчане і наагул „паспалітыя“ людзі „ўшалякага стану“, як мясцовыя, так і „староньнія“. Ранейшая ідылічная чэсьць, што цікавіла віленскіх кушняроў, цяпер замяняецца даволі срогім правілам: „зашэдшася любоўю ня ўп'янствены дом, да каторага брата, ня ў п'янства, но ў славу Божыю“. Ёсьць і яшчэ навіна ў Львоўскім брацкім статуце, каторае ня знали ранейшыя беларускія й украінскія брацтвы. Хіба паміж іншым, але колькі разоў і даволі выразьліва нарысаны адносіны брацтва да мясцовага епіскопа: „ашчэ-жа й епіскоп спраціўіцца закону, истине і не па правілу сьвятых ацец строяшча цэркві,... таковаму епіскопу спраціўіцца ўсем, яка ўрагу ісьціны...“. Або ў другім месцу: „есьлі-бы поп відзен быў у карчме, у п'янстве прабываючы, маець быці асьведчан дзьвема чалавекі хрысьцянскімі і епіскопу аповесьці“. Наступны параграф брацкага статуту ставіць брацтва ў зусім незалежнае палажэньне ў вадносінах да епіскопа: „сім усем законьне пісаным епіскоп ня маець праціўіціся сяму праву, ад нас духоўне цэркві сей у вечныя роды данаму, ані праціўіціся яковымі правы, ад зямнога царства наданымі, но закона духоўнага пісаным павінуціся бяз усякага пракаслоўя“. Мала гэтага, калі епіскоп важыцца праціўіцца гэтай пастанове, або будзе нарушаць яе, то ён падпадае пад кляцьбу чатырох усходніх патрыярхаў **).

*) Гэты статут проста забараняе прыступ да вышшых урадаў духоўным асобам не шляхоцкага паходжаньня (Любовичъ, Исторія реформаціи въ Польшѣ, цыт. працы бал 8).

**) Памятники, изданные Киевской Комиссией, т. III, № 1.

# Колькі слоў аб беларускай песьні.

*(З увагі на концэрты мінулае зімы).*

Багацьце й хараство беларускае народнае музыкі. Глінка й Манюшка Беларуская музыка ў Радавай Беларусі і ў нас. Музыкальнае творства К. Галкоўскага ў галіне беларускае музыкі. Праца грам Р. Шырмы над беларускім хорам. Беларускі раманс. Што рабіць далей?

Распрацоўваваць беларускую музыку пачалі сусім нядаўна. Перад вайной, калі беларускі рух ледзь яшчэ выяўляўся, мы, можна сказаць, ня чулі беларускае народнае песьні ў мастацкім апрацаваньню, калі ня лічыць „Чаму-ж мне ня пець?“ і „Ці ня дудка мая“, якія, дзякуючы хору Арэнева Славянскага, сталі досыць папулярнымі ня толькі ў даваеннай Расеі, але навет і вонках яе. Гэты маленькі прыклад ужо кажа аб прыцягуючым хараstве беларускае народнае мэлёдыі. І праўда, дзеля багацьця й хараства свайго беларуская народная мэлёдыя ані ня ўступае песьням—расейскай, польскай і ўкраінскай. Гэта некалі добра адчуваў Глінка, калі казаў, што „мы (композытары) толькі апрацовуем, а творыць мэлёдыі — народ“, бо сам ён, як і яго сучасьнік Манюшка, шырака ў сваіх творах карысталіся з беларускае народнае мэлёдыі. Мала хто ведае, што мэлёдычным багацьцем і хараством „Жизнь за Царя“ і „Руслан“ у вялікай меры абавязаны беларускай народнай песьні і беларускай народнай інструмэнтальнай музыцы — дудзе, бо ў нашыя часы ўжо мала асталося людзёў, у каторых захаваліся ў памяці музыкальныя мотывы гэтага інструмэнта, а большасьць іх так і згінула нікім не запісаная.

Адраджэньне Беларусі дужа пасунула наперад гэтую справу, асабліва, трэба гэта адзначыць, у Радавай Беларусі, дзе на гэта былі дадзены матар'яльныя срэдзтвы. Там над беларускай музыкай сталі працаваць ня толькі беларускія музыкальныя сілы, але й расейскія. Зьяўляюцца зборнікі беларускае песьні, сольныя й харовыя (Тэраўскага), а таксама й народныя песьні апрацаваныя ў хворме рамансаў з акампанемэнтам роялі. Працуюць над гэтым вядомы композытар Грэчанінаў, далей Аладаў, Пракоп'еў, Анцаў, Нікольскі і іншыя. Ёсьць ужо ня мала й сусім самастойных твораў у духу беларускае музыкі, як вокальных (рамансаў), так і інструмэнтальных.

У нас цэнтрам беларускага музыкальнага руху зьяўляецца Вільня, якая, сьмела можна сказаць, пераважыла-б

Беларусь Радавую, калі-б ня наша туташняя праклятая беднасьць, якая дужа перашкаджае разьвярнуцца нашым музыкальным сілам. Гэтай галоўнай сілай у нас зьяўляецца ўсім ведамы композытар і музыкальны дзеяч К. Галкоўскі. Пакуль ён ня выступіў, як кажацца, на сцэну, у нас, можна сказаць, нічога яшчэ ня было, апрача дзесятка-двух народных мотываў, пааматарску апрацаваных у хворме харавое песьні. На вучнёўскіх і іншых концэртах яшчэ панавалі расейскі й польскі романсы, бо сваіх ня было ніводнага; толькі ў 1920 годзе першы раз выпаўняюцца нясьмелыя спробы ў гэтым кірунку туташніх аматараў.

К. Галкоўскі зацікавіўся беларускай музыкай зусім нядаўна – год пяць таму назад, але за гэты час мы ўжо маем шмат яго твораў. Гармонізацыі народных песьняў у хворме хораў, квартэтаў, дуэтаў і сольных нумароў з акампанемэнтам роялі—вось галоўныя працы п. Галкоўскага. Пачата праца і над беларускай народнай опэрай (на тэму „Сымона Музыкі“) і толькі нястача матар'яльных срэдзтваў, што змушае п. Галкоўскага разьбівацца на дробныя рэчы і шукаць іншае працы, прыпыняе дасюль гэтую справу. З таго што зроблена гр. Галкоўскім у распрацаваньню беларускае музыкі, ёсьць шмат ужо бязумоўна першарадных твораў. Апрача Галкоўскага трэба сказаць мы маем тут, у Віленшчыне яшчэ й цяпер дужа мала — некалькі песьняў і композыцыяў п. п. Карузы, Стэповіча да яшчэ пары дзьве романсаў аматараў.

З спаўняльнікаў і практычных рабачаёў над пашырэньнем беларускае музыкі бязумоўна на першае месца мы павінны паставіць гр. Шырму. Гэты бязупынны працаўнік, які здаецца ўвесь аддаўся працы над роднай песьняй, шмат пасунуў наперад справу зацікаўленьня ў нас беларускай музыкай. Яму мы павінны падзякаваць у ладнай меры і за зацікаўленьне беларускай песьняй гр. Галкоўскага. Ён выдаў нядаўна дужа цэнны зборнік беларускіх песьняў у вапрацаваньню лепшых композытараў, а галоўнае ён не пакладаючы рук працуе над беларускім хорам.

Усім аматарам і знаўцам беларускае песьні памятны зарганізаваны год 5—6 назад грам. Шырмаю ў залі Беларускае Гімназіі концэрт: „Вечар славянскае песьні“, дзе беларуская песьня пастаўлена была побач з песьняй польскай, расейскай, украінскай і бліскуча вытрымала з імі конкурэнцыю. Ужо тады за роляй у тым концэрце сядзеў грам. Галкоўскі і колькі яго твораў выпаўнялася на сцэне. Гэны памятны концэрт быў у нас, можна сьмела сказаць, вялікім здарэньнем у беларускім музыкальным сьвеце.

У многіх тады рашчыніліся вочы на беларускую музыку. Адгэнуль грам. Шырма не пакідае працы, арганізуючы то вучнёўскія, то аматарскія, то царкоўныя хоры. У мінулую зіму ён даў колькі концэртаў, у якіх паказаў нам у мастацкім апрацаваньню беларускія народныя калядкі, дзе ўзноў проста захапіў многіх навіной музыкальных уражаньняў.

**В. Б.**

# Тварэньне новых словаў.

Усяго багацьця народнае мовы не стае дзеля выказаньня ўсіх поймаў, з каторымі сустракаецца інтэлігентны чалавек у розных галінах свае дзеяльнасьці. Дзеля таго ўжо здаўна слоўнікавае багацьце народнае дапаўняецца ў мове літаратурнай словамі штучна створонымі. Гэтае зьявішча ё так агульным і канечным, што, здаецца, ня ведаць аб ім ці не згаджацца з ім проста немагчыма. Нямашака такое мовы літаратурнае, што была-бы выняткам у дадзеным прыпадку. Але трэба яшчэ падчыркнуць, што створоных штучных слоў у літаратурных мовах ё такое мноства, што калі-б у якой мове хацелі заступіць іх словамі, пазычанымі з чужых моваў, дык гэта магло-б прывесьці да ўтраты ёю свае самастойнасьці, асабліва, калі-б позычкі рабіліся з моваў ёй блізкіх. Гэта асабліва трэба ведаць нам Беларусам, дзе непераборлівасьць у ўжываньню чужых словаў даходзе да разьмераў немагчымых у жадным нормальным грамадзянстве. Гэта, бяссумлеву, залежа паміж іншым ад малога вывучэньня беларускае мовы народнае і надзвычайна малое колькасьці штучна створаных словаў у беларускай мове літаратурнай.

Дык мусім рабіць штучныя наватворы ў беларускім языцэ. А калі так, дык трэба ведаць *калі* іх рабіць. Кожнае слова народнае, хоць-бы ў найменшай масцовасьці ўжыванае, ё лепшае за найляпей створонае слова штучнае. Гэта адносіцца й да народных архаізмаў, ведамых із старых памяткаў, як у нас галоўна з беларускае літаратуры арабскім пісьмом. Гэтыя архаізмы, як творы народнае псыхікі, адно прызабытыя, маюць усю перавагу над штучнымі наватворамі. Напасьледак, маем вялікі скарб беларускага слоўнікавага матар'ялу ў стара-беларускай мове літаратурнай. Гэты слоўнік наагул паўстаў з тысячагодняга

багацьця тагачаснае беларускае мовы народнае. Слоўнік стара-беларускай мовы літаратурнай з малымі выняткамі таксама стаіць вышэй за штучныя наватворы. Прыкладам таго, як часта ў народнай мове можна знайсьці патрэбнае нам слова, няхай гэтта паслужыць выражэньне „ўлегцы мець" (= п. lekceważyć, р. пренебрегать), запісанае сёлета В. Тумашам у Вішнеўскай вол., Вялейскага пав. („Што-ж вы яго ўлегцы маеце?"). Гэтае-ж выражэньне знаходзім у „Аль-Кітабе" Беларускага Музэю Йвана Луцкевіча ў Вільні, з тэй толькі розьніцай, што замест „улегцы" ё ў ім „улехцэ" (чытай: улехца). В. Тумаш запісаў там-жа слова „тàйнік" (= szpieg, detektyw, шпіонъ, сыщикъ), ведамае як беларусізм у літоўскай мове taińikas, гл. J. Otrębski, Wschodnio-litewskie narzecze twereckie, cz. III. Дык адно па вычыленьню (вычарпаньню) менаваных трох жаролаў слоўнікавага багацьця можна й трэба прыступіць да штучнага тварэньня новых словаў.

А дзеля гэтага трэба ведаць *як* тварыць новыя словы. Вось-жа штучны наватвор павінен быць сваім, родным у нашай мове, а дзеля таго мусіць хормаю й значэньнем згаджацца з масаю словаў ужо йснуючых у беларускай мове народнай; суфікс наватвору—бо словы творацца суфіксамі—мае быць аднолькавы із словамі народнымі падобнага значэньня. Перш чымся прыняць які наватвор, трэба яго разгледзіць на балонках часапісу, як гэта робяць у іншых народаў.

Пішу гэта ўсё ня дзеля таго, каб заклікаць да тварэньня наватвораў, бо такі агульны заклік мог-бы быць небясьпечны, але каб з аднаго боку адчыніць вочы на запраўднае палажэньне, а з другога — паказаць, чаго Беларусы маюць вымагаць ад наватвораў.

Напасьледак, пропоную прыняць два наступныя наватворы.

**плюйня, -і, плюйніца, -ы** (націск на *ю*). Маем дзеяслоў „сную—сноваць" і наз. імя „снуйня, снуйніца", як назоў прылады, на каторую снуюць. Маем таксама падобны дзеяслоў „плюю—пляваць", але ня маем назову прылады, у каторую плююць; дык пропоную „плюйня" (вялікая) і „плюйніца" (меншая), штобудзе адпавядаць п. spluwaczka, р. плевательница.

**саладжонка, -і.** Ад „салёны" маем „салёнка" (вароная, скрабаная бульба, Ашм. п., зап. мой і Наваз. п. Палявой), ад „кляёны"—„кляёнка" (род матар'ялу, што падкладаецца пры шыцьцю адзежы, Ашм. п., зап. мой), ад „пячоны" — „пячонка" (пячонае мяса Ашм. п., зап. мой), ад

«таўчоны»—„таўчонка“ (таўчоная бульба Наваз. Палявой), ад „пляцёны“,—„пляцёнка“. Прыпамінаю, што ежа, званая папольску ciastko, пар. морожоное, салодзіцца, бывае саладжонай, дзеля чаго пачэску завецца cukrovi. Дык ад „саладжоны будзе „саладжонка“. **Я. С.**

---

# Культурная хроніка.

*У Т-ве Прыяцеляў Беларусаведы пры Унівэрсытэце Сьц Б. ў Вільні* ў новым акадэмічным годзе йзноў пачалася праца. Наўперад трэба зацеміць, што й улетку некаторыя сябры працавалі запісуючы беларускія народныя песьні або словы дзеля беларускага слоўніка.

13. XI. сёл. была навуковая зборка Т-ва, на каторай старшыня Т-ва, Ст. Станкевіч, прачытаў часьць свае працы аб сучасных поэтах беларускіх у Заходняй Беларусі. Прачытаная часьць працы друкуецца ў гэтым нумары «Нёмна». Другая часьць працы Ст. Станкевіча аб усіх іншых поэтах у Заходняй Беларусі будзе друкавацца ў наступным нумары „Нёмна“.

20. XI. сёл. на навуковай зборцы Т-ва Пр. Беларусаведы др. Я. Станкевіч прачытаў рэфэрат на тэму: „Што дагэтуль зроблена і што яшчэ трэба зрабіць дзеля дасьледаваньня беларускага языка“.

Просьле абодвых рэфэратаў, як звычайна, была дыскусія.

*50-ыя ўгодкі радзінаў Янкі Купалы й Якуба Коласа.* Сёлета прыпадаюць 50-ыя ўгодкі радзінаў двух найвялікшых беларускіх поэтаў—Янкі Купалы (Яна Луцэвіча) і Якуба Коласа-Тараса Гушчы (Канстанціна Міцкевіча). Беларускае грамадзянства ў Вільні 27 лістападу сёлета рабіла сьвяткаваньне гэтых угодкаў, каторае арганізаваў адумыслові комітэт.

Програма сьвяткаваньня складалася з уступнога слова б. сэн. А. Уласава, двух рэфэратаў — др. М. Чарнецкага і б. сэн. В. Багдановіча—аб творстве абодвых поэтаў і пяяньня пакладзеных на ноты іхніх вершаў і народных песьняў, што выпаўніў хор пры Беларускім Студэнскім Саюзе пад кіраўніцтвам грам Р. Шырмы. Апрача таго была дэклямацыя вершаў Янкі Купалы й Якуба Коласа.

Др. М. Чарнецкі—нам здаецца—чамусьці не разумее нашых двух найвялікшых нацыянальных поэтаў. Затое

б. сэн. В. Багдановіч выказаў вялікае іх зразуменьне, паказаўшы ў сваім рэфэраце асаблівасьці іхняга творства, іх ідэйную вышыню й хараство хвормы. Рэфэрат В. Багдановіча адзначаўся пры тым урачыстым стылем, адпавядаючым узьнятаму настрою ўгодкаваму. Хор пры Беларускім Студэнскім Саюзе пад кіраўніцтвам грам. Р. Шырмы, як і на концэртах мінулае зімы й вясны, захапляў публіку хараством беларускае музыкі.

Публікі было такое мноства, што вялікая заля ля вул. Дамброўскага 5 ледзь магла ўсіх стоўпіць. Сьвяткаваньне ўгодкаў нашых вялікіх поэтаў паказала, што, нягледзячы на ўсе нягоды, каторыя сыплюцца з боку чужнікоў на беларускі народ і ягоную інтэлігенцыю, беларускі рух разьвіваецца й крапчэе.

*Др. Пр. Грышкевіч вярнуўся ў Бацькаўшчыну,* скончыўшы ў Празе філёзофічны факультэт Каралёвага ўнівэрсытэту. Др. Грышкевіч задзержыўся ў сваім родным мястэчку Сухаволі, Сакольскага пав.

---

**АД РЭДАКЦЫІ.** „Нёман“ выходзіць з такім разьлічэньнем, каб у год выйшла 12 лістоў (192 стар.) друку. Гэтак палічым прысыланую нам падпіску лічачы па 40 гр. за кожны ліст (16 стар.).

---

*Падпіску дасталі*: ад грам. Ст. Любіч - Маеўскага 25 зал., грам. Грыгаровіча з в. Барсукоў 3 зал.

---

# ЗЬМЕСТ:



---

Выдавец і Рэдактар *С. Станкевіч*.

Друкарня Я. ЛЕВІНА, Вільня, Нямецкая вул. № 22.